

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

2 ЛІСТАПАДА 2001г. № 44/4126 КОШТ 136 РУБ.







# Крывіцкі човен вярнуўся ў Полацк



Полацк багаты на гісторыю, але бедны на мемарыялы. Гаворка ідзе пра мемарыялы сапраўдныя — бетонная пачвара "50 лет ВЛКСМ" і іншыя падобныя "помнікі" толькі засмечваюць горад. На сёння ёсць помнік Скарыну ды помнік Еўфрасінні. Але першы няўдала пастаўлены, а другі выклікае шмат нараканняў як пластыкаю,так і вобразным вырашэннем. І вось нарэшце ў горадзе з'явіўся памятны знак, які адпавядае высокім мастацкім крытэрыям. Гэта помнік крывічам — заснавальнікам горада, стрыжнявому этнасу беларускай нацыі. Скульптар Алесь Шатэрнік не імкнуўся да адлюстравання гістарычнай канкрэтыкі, бо гэта справа для этнографа, а не для мастака. Яго вабіў абагульнены вобраз даўніны як чынніка Вечнасці, не канкрэтная асоба, дата, падзея — але вобраз, які можа ўвасобіць народ і ягоны шлях у гісторыі. Скульптурная кампазіцыя "Крывічы" была ўрачыста адкрыта 26 кастрычніка. З гэтай нагоды для прысутных артысты зладзілі сцэнічна-літаратурную дзею, прысвечаную Святой Еўфрасінні. Помнік асвяціў праваслаўны святар. Да грамады звярнуўся мэр Полацка Уладзімір Тачыла, які паабяцаў, што справа ўпрыгожвання горада на гэтым не спыніцца. На заканчэнне гаварыў аўтар помніка.

"Колькі сябе памятаю, я заўжды марыў зрабіць скульптуру для Полацка — цяпер гэтая мара здзейснілася, — сказаў ён. —Скульптура, мая муза, — маўклівая, але каб яе растлумачыць, часам патрэбнае слова:

***Гэта травінка, гэты каменьчык,***
***Сонца адбітак у крыніцы праменьчык,***
***Свет над бажніцай на Захад ці Ўсход***
***Гэта і смутак, і радасць, і ўзлёт.***

***Гэта жыццё і Душа чалавека***
***Над Беларуссю лунае спрадвеку,***
***Час і прастора ў кругазварот***
***Сімвалам-верай адзначан Народ"***

Радкі гэтыя Алесь Шатэрнік напісаў год назад, але яны аказаліся вельмі прыдатнымі да гэтага свята.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымках: Алесь Шатэрнік ля сваёй майстэрні ў час работы над "Крывічамі".Помнік у Полацку.*



# КОЛА ДЗЁН

**_Хутка будзе месяц, як ЗША змагаюцца з сусветным тэрарызмам. Здавалася б, і Амерыка ад нас далёка, і Афганістан і нам можна жыць спакойна. Але не, спакойнага жыцця на сённяшні дзень, відаць, няма нідзе. Пра ўсё гэта гаварылася 30 кастрычніка ў Нацыянальным прэс-цэнтры на пасяджэнні "круглага стала", прысвечанага праблемам барацьбы з тэрарызмам. Спецыялісты праваахоўных органаў не выключаюць магчымасць пранікнення на нашу тэрыторыю тэрарыстаў з Афганістана і іншых "гарачых кропак" планеты. Па прагнозах расійскіх міграцыйных службаў, у сувязі з антытэрарыстычнай аперацыяй ЗША і іх саюзнікаў у Афганістане колькасць бежанцаў з Азіяцкага рэгіёна ў РФ дасягне 1 мільёна чалавек, з якіх каля 10 тысяч могуць апынуцца ў Беларусі. Сярод бежанцаў, мяркуецца, будуць і баевікі тэрарыстычных арганізацый. Няма ніякіх гарантый, што бежанцы з тэрарыстычным вопытам не створаць у нашай краіне свае бандыцкія арганізацыі. А значыць, каб такога не было, трэба, каб і мяжа з РФ была хоць і сяброўская, але дастаткова пільная. Апошнім часам у Беларусі ўжо з'явіліся "паштовыя тэрарысты", якія рассылаюць канверты з падазроным белым парашком. Такіх "жартаў" на сённяшні дзень зафіксавана 28. Варта нагадаць, што за падобныя жарты можна трапіць за краты на пяць, а то і на восем гадоў..._**

### ВЫБАРЫ ТЫДНЯ

У нашу краіну прыйшла добрая вестка — у Парыжы на 31-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА адбыліся выбары ў яе Выканаўчы савет, у выніку якіх Беларусь у трэці раз абрана ў гэты кіраўнічы орган. На тры вакантныя месцы прэтэндавалі Албанія, Азербайджан, Арменія, Латвія, Славакія, Украіна, Югаславія і наша Беларусь. Разам з намі былі абраны Славакія і Украіна.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

У Маскве ва Усерасійскім выставачным цэнтры прайшла штогадовая выстава самых шматтыражных і папулярных газет Расіі і краін СНД. У экспазіцыйнай зале выставы можна было азнаёміцца і з беларускімі выданнямі, сярод якіх — "Звязда", "Советская Белоруссия", "Народная газета", "Чырвоная змена", а таксама некаторыя апазіцыйныя СМІ. У рамках форуму, у якім наша краіна ўдзельнічала шосты раз, прайшоў Дзень беларускай прэсы. Наведвальнікі выставы змаглі пазнаёміцца не толькі з беларускімі газетамі і часопісамі, але і з яе выдаўцамі.

### ФОРУМ ТЫДНЯ

У Жэневе адбудзецца форум "Аптымальная практыка нацыянальнай палітыкі ў краінах з пераходнай эканомікай: вопыт Беларусі". Дамоўленасць аб правядзенні форуму была дасягнута па выніках візіту выканаўчага сакратара Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН у Беларусі. Кіраўнік беларускай дэлегацыі намеснік прэм'ер-міністра Андрэй Кабякоў выступіў у Жэневе з дакладам. У рамках праграмы прэзентацыі Беларусі адбудзецца "круглы стол", у якім прымуць удзел прадстаўнікі нашай краіны і шэрагу еўрапейскіх. Словам, цяпер нас у свеце будуць яшчэ больш ведаць з добрага боку...

### ПЕНСІЯНЕРЫ ТЫДНЯ

Статыстыка — справа сур'ёзная. Хочаш вер ёй, а хочаш — не, але яна існуе і яе лічбы гавораць самі за сябе. Нямала ўжо гаварылася і пісалася, што ў нашай краіне шмат людзей пенсійнага ўзросту, якія, як кажуць, сабраліся працаваць пакуль жывуць. І ў гэтым няма нічога дрэннага. Але... На пачатку гэтага года ў цэлым у эканоміцы краіны было занята 375,7 тыс. пенсіянераў па ўзросце, па ўмовах працы, а таксама інвалідаў. Гэта амаль 9 працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых. Больш за ўсё працуючых пенсіянераў у прамысловасці (105,1 тыс. чалавек), сельскай гаспадарцы (60,8 тыс.), адукацыі (46,3 тыс.), а таксама ў галіне аховы здароўя, фізкультуры і сацыяльнага забеспячэння (43,2 тыс.). Лічбы немалыя, але, як бы там ні было, пенсіянер — гэта не загана, і таму, калі пенсіянер добра ведае справу, то чаму б яму не паказваць прыклад маладым, як трэба працаваць... А тое, што пенсіянераў у нашай краіне вельмі шмат, то гэта ўжо іншае пытанне. Старэем...

### ДАПАМОГА ТЫДНЯ

Апошнімі гадамі ў нашай краіне моцна знізілася нараджальнасць, і на сённяшні год у нас больш людзей памірае, чым нараджаецца. Праўда, такое назіраецца ў многіх краінах свету. Але там у большасці маладзетныя сем'і, у адрозненне ад нашых, не ад таго, што людзі бедныя і не вельмі ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, а хутчэй наадварот. І сапраўды, у нас задумаешся, ці варта яшчэ павялічваць колькасць едакоў у сям'і, калі і тым, што ёсць, не заўсёды ўсяго хапае. Хаця, як гаворыцца, Бог дае дзяцей і дае на дзяцей. А што дзяржава? А дзяржава дапамагае. Так, памер дапамогі маладым маці, якія знаходзяцца ў пасляродавым адпачынку, на сённяшні дзень складае 23 тысячы рублёў. Малавата, але гэта лепей, чым нічога. Цяпер распрацоўваецца новы падыход да павелічэння гэтай дапамогі, якая павінна скласці 65 працэнтаў ад спажывецкага мінімуму, або 34 тысячы рублёў. І гэта таксама невялікія грошы. І ўсё ж трэба спадзявацца, што дажывём да таго часу, калі і ў нас будзе так, як нам хочацца...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Міністэрствам аховы здароўя ў 1999 годзе прынята рэспубліканская праграма "Кардыялогія". Галоўная каштоўнасць гэтай праграмы ў тым, што яна назвала прыярытэтам прафілактыку сардэчна-сасудзістых захворванняў. Але прафілактыка прафілактыкай, а людзі ўсё роўна хварэюць. На сённяшні дзень у нашай краіне ад захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы пакутуюць 1,5 млн. чалавек. А штогод ахвярамі сардэчных хвароб у Беларусі становяцца ў сярэднім 70 тысяч чалавек. Як гаворыцца, не трэба і вайны...

### ЦЭНЫ ТЫДНЯ

Быў час, калі ў модзе было золата, асабліва залатыя зубы. Цяпер мала хто ганяецца за золатам, бо людзі зразумелі — не ўсё сонца, што блішчыць, а тым больш ці залатыя ў цябе зубы, ці касцяныя, а калі прыйдзе час паміраць — пампэш. І ўсё ж, калі ёсць на свеце золата, то ёсць і будуць на яго ахвотнікі. І золата мае цану. Нядаўна Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь устанавіў новыя цэны на каштоўныя металы ў выглядзе банкаўскіх і мерных злiткаў, а таксама манет. Цяпер афіцыйная цана аднаго грама залатога мернага злітка пры продажы яго юрыдычным і фізічным асобам (за выключэннем банкаў) складае 20 тысяч 944 рублі. Дарэчы, чым большая вага злітка, тым меншая цана аднаго грама. Так што купляйце золата кілаграмамі!..

# Побач са Скарынам і Еўфрасінняй...

Двор Беларускага дзяржаўнага універсітэта ўжо даўно фактычна з'яўляецца галерэяй манументальнай скульптуры пад адкрытым небам. У аўторак 30 кастрычніка "галерэя" папоўнілася новым (дарэчы, надзвычай удалым) творам скульптара Аляксандра Прохарава — помнікам Кірылу Тураўскаму. Вялікі асветнік трапіў у добрую кампанію. Бо раней тут паўсталі помнікі Францішку Скарыну, Міколу Гусоўскаму, Еўфрасінні Полацкай, Сымону Будныму і Васілю Цяпінскаму. У адрозненне, скажам, ад універсітэта Маскоўскага, дзе чатыры ўнутраныя двары ўпрыгожаны чатырма аднатыпнымі помнікамі дзеячам рускай навукі, — у нас абсалютна іншая пластычна-прасторавая канцэпцыя. Кожны помнік існуе нібыта сам па сабе, кожны ў сваёй стылістыцы — а разам яны мусяць стварыць панараму тысячагадовай беларускай культуры і навукі. Пакуль канцэпцыя рэалізуецца няблага. Яшчэ пэўную колькасць помнікаў універсітэцкі двор прыняць зможа. А потым, можа, прыйдзе час падумаць і аб будынках БДУ, што за межамі Універсітэцкага гарадка і нават за межамі горада.

Помнікам Кірылу Тураўскаму універсітэт сам сабе зрабіў падарунак да ўласнага васьмідзесяцігоддзя.

**П. В.**

*На здымку М.ПРУПАСА: агульны выгляд помніка. Урачыстая хвіліна: рэктар БДУ Аляксандр Казулін адкрывае помнік.*





ВЕЧАРЫНЫ

# Праўда, лірызм, пяшчота...

Імя Генадзя Бураўкіна вядома кожнаму, хто любіць свой край, хто высока цэніць паэтычнае слова, родную культуру. У паэзіі і публіцыстыцы, у песні слова Бураўкіна было заўсёды пазначана трывалым запасам праўды, болю і радасці, мудрасці і нераўнадушша.

Генадзь Бураўкін — гэта цэлая эпоха на Беларускім тэлебачанні і радыё, якія пры ім сталі пасапраўднаму нацыянальнымі, высокапрафесійнымі.

Пра ўсё гэта ішла размова на вечарыне ў гонар 65-годдзя паэта, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча, якая прайшла ў вялікай зале Дома літаратара.



У перапоўненай зале былі калегі Генадзя Мікалаевіча па пяры, дыпламаты, палітыкі, мастакі, музыкі, і, вядома, шматлікія прыхільнікі Майстра — школьнікі, студэнты, выкладчыкі, бібліятэкары. Прыехалі і землякі з Віцебшчыны.

Вядучы вечарыны народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін адзначыў высокі грамадзянскі тэмперамент сябра, яго тонкі лірызм і пяшчоту, адданасць свайму народу і ўзнёслае служэнне паэзіі. Ён перадаў цёплае прывітанне ад Васіля Быкава, прачытаў уласныя вершы, прысвечаныя Бураўкіну.

Вершы юбіляра гучалі ў выкананні народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч, артыстаў Вячаслава Галузы і Галіны Дзягілевай.

І, вядома ж, гучалі песні. Песні, якія палюбіліся многім беларусам, якія сталі папулярнымі за межамі нашай краіны. Іх выконваў славуты дуэт — Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, іх дачка Насця, кампазітар і выканаўца з Магілёўшчыны Мікола Яцкоў.

Хоць па сцэнару вечарыны віншаванні былі не прадугледжаны, не маглі ўтрымацца, каб не выйсці на сцэну і сказаць цёплыя словы юбіляру, акадэмік Радзім Гарэцкі, прафесар Анатоль Грыцкевіч, мастакі Аляксей Марачкін, Леанід Шчамялёў, Уладзімір Басалыга, Генадзь Вашчанка, Уладзімір Сулкоўскі, старшыня ТБМ Алег Трусаў, прадстаўнікі гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас і Лявон Баршчэўскі, пасол Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь і многія іншыя.

Выступіў і сам віноўнік урачыстасці. Ён чытаў свае вершы, адказваў на шматлікія пытанні.

Зала стоячы, доўгімі і гарачымі воплескамі вітала Паэта і Грамадзяніна. І ў гэтых шчодрых знаках людской узнёсласці быў высокі і глыбінны сэнс, бо няма лепшай долі для сапраўднага творцы, як тая, калі цябе любяць і разумеюць удзячныя чытачы, калі справа, якой служыш, жыве, калі побач сапраўдныя сябры, верная жонка, любімыя дзеці і ўнукі.

**Нічыпар ЧАРНЫШ**

*Фота Я. КОКТЫША*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Цікавыя сустрэчы ў рамках Дзён культуры Беларусі ў Карэліі адбыліся са старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгай Іпатавай. Яны прайшлі ў музеі "Кіжы", Нацыянальным парку "Валазёрскі", з працаўнікамі цэлюлозна-папяровага камбіната ў Кандапозе.

Асабліва цікавай была гаворка ў цэнтры нацыянальных культур з сябрамі беларускага таварыства "Крыніца", якое ўзначальвае Люцыя Арцюшчык (Грабоўская).

В. Іпатава падарыла суполцы беларускія кнігі, а народны артыст Беларусі, рэктар Акадэміі музыкі Міхась Казінец па-майстэрску прачытаў вершы беларускіх паэтаў.

●

Павіншаваць з 80-годдзем аднаго са старэйшых нашых пісьменнікаў Івана Муравейку ездзілі ў Любань, дзе жыве і працуе Іван Андрэевіч, намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч, пісьменнікі Уладзімір Паўлаў і Мікола Чарняўскі. Яны ўручылі юбіляру Ганаровую грамату Саюза пісьменнікаў, свежы нумар "Вясёлкі" з новымі вершамі І. Муравейкі, сувеніры і падарункі. Госці прынялі ўдзел ва ўрачыстай вечарыне, якая прайшла ў мясцовым РДК.

●

Цэлы пісьменніцкі дэсант прыняў удзел у чарговай акцыі Міністэрства культуры "Майстры мастацтва — працаўнікам сяла", якая на гэты раз прайшла на Міншчыне — у Барысаўскім і Валожынскім раёнах. З сельскімі працаўнікамі ў РДК, сельскіх клубах сустракаліся Уладзімір Ліпскі, Алесь Пісьмянкоў, Навум Гальпяровіч, Анатоль Зэкаў, Мікола Чарняўскі.

●

Юбілею вядомага курдскага паэта Ганада Чарказяна, для якога Беларусь зрабілася другой радзімай, была прысвечана творчая сустрэча ў бібліятэцы Дома літаратара. Аўтара натхнёных вершаваных радкоў віталі пасол Рэспублікі Арменія ў Рэспубліцы Беларусь Сурэн Аруцюнян, дырэктар Інстытута літаратуры АН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Георгій Марчук, пісьменнікі Алесь Пісьмянкоў, Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп, Мікола Мятліцкі, Віктар Праўдзін, Казімір Камейша, Алесь Пашкевіч, Валерый Стралко, Ірына Шаўлякова, гумарыст Уладзімір Ермалаеў, старшыня азербайджанскага зямляцтва "Габустан" Націк Багіраў, мастак Каміль Камал, сябар юбіляра Кахін Абілаў. Вёў сустрэчу народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, у перакладах якога айчынны чытач змог пазнаёміцца з творчасцю Г. Чарказяна. Кіраўнік тэатра "Зніч" Галіна Дзягілева чытала вершы паэта, бард Алесь Камоцкі выканаў песні на яго словы. Ганад Чарказян перадаў у дар Арменіі набытую ў Фларэнцыі кнігу "Гісторыя Арменіі", што была выдадзена ў Жэневе ў 1629 годзе.

**М. Р.**

●

Адбылося пасяджэнне секцыі паэзіі. Падведзены вынікі работы за папярэдні перыяд. Сябры секцыі актыўна працавалі з маладымі аўтарамі, рыхтавалі да выдання рукапісы, абмяркоўвалі новыя творы. Напярэдзе багата спраў: паэтычнае слова чакаюць у працоўных калектывах, у абласных і раённых цэнтрах, ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі. Большасцю галасоў на пасаду старшыні секцыі паэзіі абраны Эдуард Акулін, на пасаду намесніка старшыні — Мікола Шабовіч.

# Успомнім сёння дзядоў



Афіцыйна гэтае свята называецца Дзень памяці. Але назва не прыжылася і, здаецца, ніколі не прыжывецца. Усё роўна ўсе кажуць — Дзяды. І хаця большыня з нас хрысціяне, гуртам адзначаем паганскае свята як царкоўнае. А для прашчураў-паганцаў яно сапраўды было святам — пілі-елі на кладах, спявалі і скакалі: радаваліся за сваіх нябожчыкаў, што перабраліся ў лепшы свет...

Мы ж сёння прыходзім на родныя магілы з лёгкім одумам і сумам у душы. Моўчкі "гаворым" са сваімі дзядамі, бацькамі, братамі-сёстрамі, а яшчэ горш, калі з дзецьмі... Перапрашаем за былыя сапраўдныя і ўяўныя грахі, прыпамінаем, што некалі скрыўдзілі іх злым словам, няўвагаю, абыякавасцю. Не далюбілі, не дадалі ім цяпла душы сваёй, не прамовілі ў час ласкавыя словы, не ўганаравалі плён іхняга жыцця, не ўшанавалі іх старасць.

Яны ж, нашыя нябожчыкі, даруюць, вядома, нам усё. І калі будуць прыходзіць у нашыя сны, дык без папрокаў і кпінаў. Адтуль, з нябёсаў нашы Дзяды захінуць нас ад пагрозаў сённяшняга жыцця, атуляць нашы душы спагадаю і спакоем. Трэба толькі не забывацца на памерлых, што паплылі на сваіх чаўнах у Вечнасць, прыйсці на клады з жывой ці папяровай кветкаю, павінавацца, выпіць за іх памяць сумную чарку, шчыра запрасіць: "Шаноўныя Дзяды, прыходзьце на бліны!"

БРАВА!

# Сусветная прэм'ера ў Японіі

Падобная падзея была ўжо... у мінулым стагоддзі. Цікава? Тады знайдзіце "ЛіМ" за 19 лістапада 1999 года. У публікацыі пад загалоўкам "Алімпійскі гонар з дамешкам сораму" ёсць уся асноўная інфармацыя пра дачыненні беларусаў да найпрэстыжнага міжнароднага фестывалю сённяшняй кампазітарскай творчасці "Сусветныя дні музыкі". Яго штогод, пачынаючы з 1923-га, праводзіць Міжнароднае таварыства сучаснай музыкі. Штаб-кватэра таварыства — у Амстэрдаме. Фестывалі ладкуюцца ў розных гарадах, штораз — у іншай краіне. Творы для выканання ў канцэртных праграмах спецыяльнае журы выбірае з новых партытур, што дасылаюцца ў аргкаміт нацыянальнымі секцыямі — удзельнікамі Міжнароднага таварыства.

Дык вось, нягледзячы на тое, што Беларускае таварыства сучаснай музыкі з-за бядотнага фінансавага становішча як саміх творцаў, так і суполкі мае праблему рэгулярнай платы членскіх узносаў, фартуна зрэдчас усміхалася нашым кампазітарам.

Калісьці на "Сусветных днях..." прагучаў твор Сяргея Бельцюкова. Потым — гады маўчання. Затое восенню 1999-га ў канцэртных праграмах фестывалю, арганізаванага ў Румыніі ды Малдове, было адразу два імя прадстаўнікоў Беларусі! Аляксандр Літвіноўскі, чый твор прагучаў у Бухарэсце, і Дзмітрый Лыбін, музыку якога румынскія выканаўцы прадставілі ў Кішынёве.

З-за недаплаты штогадовых узносаў Беларускае таварыства сучаснай музыкі было пазбаўлена магчымасці прэтэндаваць на ўдзел у фестывалі 2000 года, які ладкаваўся ў Люксембургу. Але сёлета фартуна ўсміхнулася зноў: нашым творцам прапанавалі дасылаць ноты кандыдатаў на ўдзел у "Сусветных днях музыкі" 2001 года — першым фестывалі новага тысячагоддзя!

Гонар правесці яго выпаў Краіне Узыходзячага Сонца. У Японію былі адпраўлены свежыя опусы некалькіх беларускіх кампазітараў. Журы выбрала з іх толькі п'есу Вячаслава Кузняцова "Рытуал" для трамбона сола.

Аўтар атрымаў паведамленне ці, дакладней сказаць, запрашэнне ад арганізатараў фестывалю. Беларускага кампазітара чакалі на прэстыжнай сусветнай прэм'еры яго твора, падрыхтаванага японскім выканаўцам. Ды, на жаль, у Вячаслава Кузняцова, у аднаго з найбольш аўтарытэтных дзеячаў айчыннай музычнай культуры, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, не знайшлося ні сродкаў на далёкую вандроўку, ні спонсараў. Крыўдна...

Факт выканання "Рытуала" ў канцэртах самага прадстаўнічага форуму сучасных кампазітараў — не толькі радасць для В. Кузняцова і яго сяброў. Гэта і гонар для Беларусі. Праўда, гонар гонарам. а на праблемы таварыства сучаснай музыкі дзяржава нібыта лічыць за лепшае не зважаць. Крыўдна. Як той казаў, — за дзяржаву.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Вячаслаў КУЗНЯЦОЎ.*

# Праява духоўнага суверэнітэту

У Нацыянальным мастацкім музеі зараз экспануюцца унікальныя творы ўкраінскага мастацтва. Частка з іх упершыню трапіла за межы краіны. "Украінская ікона трох стагоддзяў" — назва выставы. Творы належаць Кіева-Пячорскай Лаўры і Музею народнай архітэктуры і побыту (аналагу нашага скансэну, што ў Строчыцы пад Мінскам). Экспазіцыя дае добрае ўяўленне пра тое, як развіваўся іканапіс на зямлі Украіны ў XVI—XVIII стагоддзях. Цікава адзначыць падабенства ўкраінскага і беларускага рэлігійнага мастацтва тае пары (іканапіс — толькі адна з праяў гэтай з'явы). Знаходзячыся на мяжы праваслаўнага Усходу і каталіцкага Захаду, у блізкіх геапалітычных варунках, два братнія народы сфармавалі вельмі падобнае мастацтва.

На думку сучасных украінскіх даследчыкаў першынства ў фармаванні агульнай іканапіснай школы на непадначаленых Маскве ўсходнеславянскіх землях належыць усё ж Украіне. Яны сцвярджаюць, што трэба весці гаворку аб выяўленчай школе Кіеўскай мітрапаліі, распаўсюджанай як на ўкраінскіх, так і беларускіх землях. Думка цікавая, але надта ж спрэчная.

Рэч у тым, што вырашаючы пытанне аб культурніцкіх прыярытэтах, трэба браць да ўвагі палітычны статус той ці іншай зямлі. А вось статус Беларусі ў межах Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай быў значна вышэйшы за статус Украіны. Беларусь пад гістарычным імем Літва сэрца Вялікага Княства, ягоны палітычны і культурны цэнтр. Украіна — далёкая перыферыя, адваяваная вялікім князем у татараў, на якую потым даволі лёгка паклала напачатку вока, а потым і руку хаўрусніца Літвы Польшча. Ды і Вялікае Княства не надта бедавала, згубіўшы Кіеў ды ўсю Украіну — гэта ж не Вільня, не Магілёў, не карэнныя землі дзяржавы. Нездарма потым, у XVII стагоддзі, украінцам давялося жорстка ваяваць з польскай уладай за права "людзьмі звацца"...

Я гэта да таго, што наўрад ці палітычна неўплывовая зямля магла дыктаваць свае мастацкія густы іншым. Падабенства беларускай і ўкраінскай мастацкіх школ сведчыць хутчэй пра агульную для абодвух народаў культурніцкую зарыентаванасць на заходнюю Еўропу. Блізкія стылёва між сабою мастацкія школы Беларусі і Украіны XVI—XVIII стагоддзяў моцна адрозніваюцца ад маскоўскага іканапісу тае пары, які звыкла трымаўся візантыйскай традыцыі.

Выстава дае матэрыял для роздуму не толькі аб гістарычным лёсе братняга народа, але ў пэўнай ступені высвятляе і нашы, беларускія, культурніцка-палітычныя праблемы. Найперш — праблему асэнсавання гістарычнай спадчыны для будаўніцтва суверэннай дзяржавы. Бо найвышэйшая форма суверэнасці — суверэннасць духоўная. Трэба ўмець шанаваць сваё. У гэтай справе нам, дальбог, ёсць чаму павучыцца ў братняга народа.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Зоркі аперэты

У абласны цэнтр прыехалі вядомыя салісты Дзяржаўнага музычнага тэатра. Сярод іх — заслужаны артыст Беларусі і Украіны Арнольд Ранцанц, заслужаныя артысты Беларусі Герман Казлоў і Зінаіда Вяржбіцкая, заслужаны артыст Расіі Аляксей Кузьмін. У вялікай зале абласнога грамадска-культурнага цэнтра яны далі гала-канцэрт. Прагучалі дуэты з аперэт "Марыца", "Сільва", "Прынцэса цырка"...

## Дыпломы з Арла

У гэтым расійскім горадзе прайшоў другі міжнародны фестываль эстрадных выканаўцаў "Славянская зорка-2001". У ім прынялі ўдзел маладыя спевакі з Арла, Курска, Белграда, Бранска, Калугі, Харкава, Ціраспаля, Бендэраў. Беларусь прадстаўлялі гомельскія салісты Алеся Талкачова, Эдуард Ганебнік, Аляксандр Трудкоў. Усе яны ўзнагароджаны дыпломамі фестывалю.

## Школе — 25

Споўнілася 25 гадоў Гомельскай дзіцячай мастацкай школе № 1. Тут працуюць выкладчыкі з высокай прафесійнай падрыхтоўкай, сярод якіх і сябры Саюза мастакоў. А многія выпускнікі школы штогод паступаюць у мастацкія вучэльні і Беларускую акадэмію мастацтваў. З нагоды юбілею ў карцціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрылася выстава работ выкладчыкаў школы.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Таленавіты ва ўсім

Яўген Мацвееў — прафесійны ўрач. Шмат гадоў запар працуе ў санаторыі "Наваельня", што на Дзятлаўшчыне, лечыць хворых на сухоты. Ён яшчэ і разьбяр па дрэве. Работы Мацвеева дэманстраваліся на выставах у Дзятлаве і Гродне. Іх паказвалі па Беларускім тэлебачанні. Піша Яўген Мацвееў і вершы. Выдаў ужо два зборнікі, рыхтуе да друку трэцюю кнігу. А да ўсяго ён яшчэ і здольны артыст мастацкай самадзейнасці.

## Юныя эколагі

Калектыў Дзятлаўскай раённай дзіцячай бібліятэкі, якой доўгі час загадвае Таццяна Барысавец, выхоўвае юных эколагаў, вучыць падрастаючае пакаленне любіць родную прыроду. Бібліятэка не раз выходзіла ў пераможцы абласных і рэспубліканскіх конкурсаў на лепшую пастаноўку экалагічнай адукацыі і інфармавання мясцовага насельніцтва. Нядаўна калектыў узнагароджаны Ганаровай граматай Гродзенскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. А па выніках рэспубліканскага конкурсу бібліятэка ўзнагароджана каляровым тэлевізарам.

Работнікі ўстановы аформілі вельмі змястоўны экалагічны куток "Прырода яшчэ спадзяецца". А ў бліжэйшы час юныя эколагі сустрэнуцца з вядомымі вучонымі-біёлагамі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы і іншых вышэйшых навучальных устаноў абласнога цэнтра.

## Беларусачка з правінцыі

Цікавае мерапрыемства адбылося ў Наваельнянскім Доме культуры. Старшакласніцы мясцовай школы змагаліся за атрыманне звання "Беларусачка-2001". Для таго каб стаць лепшай у межах свайго гарадскога пасёлка, дзяўчаты павінны былі прайсці выпрабаванні па пяці намінацыях: "прадстаўленне сябе", "матчын ручнік", "беларускія стравы", "матчына песня", "беларуская варажба". Самай абаяльнай, прыгожай, працавітай і спрытнай прызнана Людміла Каракулька. На другім месцы — Аня Мазура, на трэцім — Святлана Жук. А прыз глядацкіх сімпатый дастаўся Ірыне Машчынскай.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Каменныя кветкі



Вось такія каменныя "кветкі" "выраслі" напрыканцы лета на клумбе побач з галоўным корпусам Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя Аркадзя Куляшова. Стварыў іх не казачны Даніла-майстра, а малады магілёўскі скульптар, выкладчык універсітэта Андрэй Вераб'ёў. Ён вырашыў упрыгожыць сваімі работамі куток роднага горада. Дарэчы, нядаўна побач з галоўным корпусам дзяржуніверсітэта адбылося ўрачыстае адкрыццё алеі паркавай скульптуры. Цяпер, апрача каменных "кветак", пляцоўку ля ВНУ ўпрыгожваюць некалькі кампазіцый з каменя і бетону, якія створаны рукамі Андрэя Вераб'ёва.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*Здымак аўтара*

*БРЭСТЧЫНА...*

## Набажэнства ў касцёле

Як паведамляе краязнаўца Леанід Несцярчук, Камянецкая каталіцкая парафія, створаная ў 1501 годзе, адзначыла юбілей. Старажытнага касцёла ўжо не існуе. На яго месцы ў пачатку XX стагоддзя быў узведзены Свята-Троіцкі касцёл. Але ў савецкі час ён не дзейнічаў, тут працавала грамадская сталовая. Намаганнямі ксяндза Яна Васілеўскага будынак касцёла рэстаўруецца. У ім днямі з нагоды 500-гадовага юбілею парафіі адбылося ўрачыстае набажэнства. На мерапрыемства з'ехаліся прадстаўнікі грамадскасці, святары, у тым ліку архібіскуп Брэсцкі Казімір. У хуткім часе рэстаўрацыя касцёла будзе завершана, а службы стануць рэгулярнымі.

**Наш кар.**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Пісьменніцкі даведнік

Сакратар абласнога аддзялення СП Франц Сіўко падрыхтаваў да друку даведнік "Пісьменнікі Віцебшчыны". Тут сабраны поўны пералік выдатных землякоў, якім наканавана было стаць гонарам прыгожага пісьменства. Гэта Еўфрасіння Полацкая, Ян Баршчэўскі, Міхась Лынькоў, Уладзімір Дубоўка, Пятрусь Броўка, Уладзімір Караткевіч... У кнізе — сістэматызаваныя звесткі пра даты жыцця і месцанараджэнні, біяграфічныя і бібліяграфічныя дадзеныя. Ёсць таксама і пералік літаратурных музеяў рэгіёна. Даведнік выдадзены пры падтрымцы Віцебскага аддзялення грамадскага аб'яднання "Фонд імя Льва Сапегі".

## Гаварылі пра літаратуру

У Наваполацкай бібліятэцы імя Маякоўскага адбылася літаратурная вечарына сяброў Глыбоцка-Полацкай філіі абласнога аддзялення СП. Перад чытачамі выступілі А. Жыгуноў, У. Сауліч, Г. Варатынская, Л. Неўдах, І. Дарафейчук.

**Святлана ГУК**

## *“Грэшная душа”*




**Зірнуўшы на вокладку кнігі Леанарды Юргілевіч “Грэшная душа”, што папоўніла “Бібліятэку “Вожыка”, адразу хочацца адшукаць апавяданне, сюжэт якога і падказаў мастаку Яўгену Царкову адпаведнае афармленне. Інтуіцыя сведчыць, што хутчэй за ўсё гэта павінен быць твор, які даў назву зборніку. Сапраўды, падобным чынам Я. Царкоў праілюстраваў апавяданне “Грэшная душа”, якім, дарэчы, кніга адкрываецца. Выбраў той момант, калі свавольнік-казёл зачапіўся рагамі за плот і павіснуў на ім.**

**Прадчуваю здзіўленне сяго-таго з чытачоў: “Выпадак, канечне, смешны, але ці падстава для таго, каб пісаць апавяданне? Няхай і гумарыстычнае”. Наконт гэтага можна сказаць толькі адно: “Не спяшайцеся, браточкі, рабіць высновы. А лепей пазнаёмцеся з самім апавяданнем, і тады...” Такі твор, думаецца, палічылі б мець за гонар у сваім мастакоўскім набытку многія, куды больш вопытныя, чым Л. Юргілевіч, гумарысты (яна працуе ў дзятлаўскай раённай газеце, а згаданая кніга ў яе першая).**

**Паводле сюжэта дзве жанчыны са сваёй сяброўкай Адэляй Казліхай, муж якой меў прозвішча Казёл, уборку буракоў адзначылі не адной пляшкай віна. Не паспелі разысціся па хатах, як прыбегла Адэля: “Бабы, мой казёл павесіўся!” Нічога не засталося, як паспяшацца да Казліхі. Гаспадыні ў хаце не было, таму вырашылі самі памыць нябожчыка, які ляжаў на ложку. З-за спешкі святла не запальвалі.**

**“Яны звалаклі з Казла ўсю вопратку, паставілі поруч табурэткі і крэслы, перанеслі туды нябожчыка, каб не замачыць пасцель, і Лёдзя, добра намачыўшы анучку, пляснула яе на грудзі Казлу, пацерла. Потым намачыла яшчэ раз і пляснула на твар”. І тут адбылося неверагоднае: “Казёл знянацку схапіў яе за руку, і мацюкнуўся так, што пад столлю ў хаце заміргала адзіная лямпачка.**

**Лёдзя абамлела і асунулася на дол.**

**Сцяміўшы, што ляжыць перад кабетамі голы, Казёл, як уджалены, падскочыў і, схапіўшы цяжкі гумовы бот, шпурнуў яго ў знямелую Лёдзю. Тая падхапілася на ногі і, хрысцячыся, задам адступала да дзвярэй.**

**Жанчыны выскачылі з хаты і напаткалі гаспадыню:**

**— Чаго гэта вы такія ўтрапёныя, ды яшчэ ў чорных хустках? Памёр хто? — высунулася з-за плота Адэля.**

**— Дык Казёл жа твой быў павесіўся. Мы сталі яго мыць, а ён уваскрэс.**

**— Ды вы зусім мазгі адпілі, бабы! Не мужык жа, а казёл Меркятун павесіўся на суседавым паркане. Цяжкі, як з гліны. Адна зняць не магла, па вас пабегла. А вы во калі з’явіліся, паненкі...**

**— Каб на табе на тым свеце чэрці ваду вазілі, — сплюнула Лёдзя”.**

**І іншыя апавяданні і гумарэскі таксама напісаны па-майстэрску. Пачнеш чытаць, не стрымаешся, каб не засмяяцца. Умее Л. Юргілевіч знаходзіць нечаканыя сюжэты. А да ўсяго ўмела “раскручвае” дзеянне. Як у гумарэсцы “Цуд”, героі якой “участковы інспектар Міхась Луз і старшыня сельсавета Пятрусь Бярэйка вярнуліся з рэйда з пачуццём выкананага абавязку і саракалітровай каністрай чысцюткага, як мужчынская сляза, чымергесу”. Адзначылі паспяховае завяршэнне аперацыі, а пасля Луз з каністрай на матацыкле накіраваўся дахаты, а “па дарозе ў яго п’яных мазгах узнікла геніяльная ідэя — зрабіць цешчы “падарунак”, каб... “Вынаходнік” наліў у вядро самагонкі, а раніцой цешча, ні аб чым не здагадваючыся, наліла гэтай “вады” ў гаршчок.**

**Таксама Міхасю, толькі Рупіку, з гумарэскі “Брыльянтавая нага” было не да смеху, калі прачнуўся раніцой і ўбачыў, што адна нага нібыта ў гіпсе. Усё растлумачыла жонка: “Учора вечарам п’яны, як балота, дадому прыцягнуўся... Распранула, хацела разуць, то адзін бот неяк сцягнула, а другі — хоць ты разразай было. Дык я, каб пасцель не запэцкаў, заматала яго старой прасцінай і ўзвалакла цябе, заваліну, на ложак”.**

**Не грэшна пасмяяцца і чытаючы такія творы, як “Анёлак на капытцах”, “Квітанцыя на парсючка”, “Феерверк”, “Міна ў сене”... Ды і ўся кніга сведчыць на карысць таго, што Л. Юргілевіч добра валодае талентам гумарыста.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# І ў балагане марыць пра вежу

З апошніх выданняў асаблівую цікавасць выклікае зборнік паэзіі Людмілы Рублеўскай “Балаган” (Полацк, 2000). На першы погляд, назва кнігі здаецца незвычайнай, незразумелай. Але бліжэй пазнаёміўшыся з вершамі зборніка, прааналізаваўшы іх, можна з упэўненасцю сказаць, што “балаган” — у пэўным сэнсе алегорыя сучаснага жыцця, дзе кожны з нас выступае ў ролі цыркача ці акцёра. Праўда, лірычная гераіня пісьменніцы з аднайменнага верша стамілася жыць у фальшы і хоча пайсці іншым шляхам да сапраўднага шчасця:

***Вазьміце і мяне ў апошнюю з дарог,***
***Абрыд мне балаган,***
***дзе вумнасці гавораць,***
***Абрыдла фальш вакол,***
***мастацкасці фальга,***
***Куды там зорку ў лоб —***
***Задавальняйся шнарам.***
***Мне спрыту не стае.***
***Смяецца балаган***

Верш звяртае на сябе ўвагу сваёй філасафічнасцю, у ім уздымаецца тэма жыцця і смерці на гэтай грэшнай зямлі, адвечная праблема пачатку і канца... Такое адчуванне, што небыцця для паэткі не існуе. Яна верыць у несмяротнасць душы. Смерць жа — толькі мяжа, пра якую трэба ўвесь час памятаць. Галоўнае для аўтара — паспець зрабіць на зямлі тое, для чаго мы былі народжаны, пакінуць пасля сябе добрую людскую памяць і тым самым выканаць свой абавязак у жыцці, каб потым са спакойнаю душою ўзнесціся на неба. Галоўнае — не забыцца на зямныя выпрабаванні і не трапіць душой у здрадлівае балота, не падмануцца спакуслівымі сінімі агеньчыкамі дрыгвы:

***Люстэркам крывым расколоцца,***
***І кожным асколачкам***
***зблісную паспець***
*(“Ікар — пасля”)*

Неяк песімістычна ставіцца Л. Рублеўская ў сваіх вершах да жыцця, да свету. Прысвечаныя вечным тэмам жыцця і смерці, яны напоўнены выразным смуткам, тугой. У такіх творах пануе цёмны колер, дапоўнены карагодам ценяў, прывідаў, сноў.

Непазбежнасць смерці падкрэсліваецца амаль у кожным радку, але гэта не абазначае канец усяму, тупік. Смерць у паэткі з’яўляецца як бы пераходам у іншае жыццё, вечнае, больш спакойнае, размеранае:

***Марэнне ценяў. Што да іх жывым?***
***Прыступкі пекла выкладзены***
***з вершаў.***
***Ты зразумей: ніхто не будзе першым,***
***І кожнага атруціць часу дым.***
***Цень не парушыць***
***сонечны спакой —***
***Арфей заняты песняю сваёй.***
*(“Зрабіцца ценем у краіне ценяў...”)*

Але асабліва выразна і ясна выказала паэтка свае думкі аб жыцці чалавека ў вершы “Двухтварасць”, выкарыстаўшы кантраст паміж зялёным колерам ліста, што сімвалізуе жыццё чалавека, і срэбным колерам (сімвал смерці). У творы ліст — сам чалавек, і праз гэты вобраз паказана наша жыццё ад пачатку і да канца, памкненне кожнай істоты да свету, да выжывання:

***Зялёны, да сонца павернуты, твар***
***піў сонца, цягнуўся за ім,***
***як мог выварочваў зялёны хрыбецік,***
***адпіхваў суседзяў,***
***між ценяў варочаўся***
***Абы жыватворныя промні***
***злавіць, паглынуць, увасобіць***
*(“Двухтварасць”)*

Чым жа гэта не чалавечая прага да існавання? Чалавек, як той ліст, нараджаецца, расце, набіраецца сілаў, а потым, калі прыйдзе яго час, ападае. Менавіта ў гэты момант зялёны колер жыцця саступае месца срэбнаму колеру халоднай вечнасці:

***А срэбраны бок —***
***прахалодны заўсёды,***
***мяккі і пяшчотны,***
***але анікому не бачны,***
***твар месячны***
***і патаемны, задумлівы, сонны,***
***заўсёды глядзеў на зямлю.***
***гэта значыць — на смерць,***
***цвярдую, пляскатую смерць***
***для лістоў і людзей.***
*(Там жа)*

Скразной, сэнсавызначальнай тэмай зборніка “Балаган” з’яўляецца зварот да Бога, пошук Боскага ў чалавеку і на зямлі. Звязана гэтая тэма з вобразамі Хрыста, Крыжа, Храма, святла, Вечнасці.

Наогул, рэлігійна-духоўны змест і прысутнасць гэтых сапраўды адметных вобразаў успрымаецца намі красамоўным знакам сучаснасці. Пасля стольківх год атэістычнай д’ябальшчыны імя і слова Бога адраджаюцца як у жыцці, так і ў літаратуры. Таму невыпадковы зварот Л. Рублеўскай менавіта да такой тэматыкі.

“Напачатку было Слова”, — напісана ў Бібліі. Гэта Слова для нашай аўтаркі ад Бога, яно — павадыр, гаючы эліксір, сімвал жыццядайнасці і чалавекалюбства. З вобразам Слова паэтка звязвае шлях на зямлі і ў Сусвеце.

***І зноў загараецца лёс чалавечы***
***Ад ціхага слова, ад цёмнай іконы.***
***Сусвет рассыпаецца***
***дробнасцю светаў,***
***Вялікасцю хрусткай***
***карон маскарадных***
*(“Позна”)*

Лірычная гераіня зборніка, калі можна так сказаць, — душа жанчыны-хрысціянкі. Душа, якая адчувае сваю Боскую, зорную існасць, якая спавядаецца ў смутку і радасці:

***І расколаты,***
***звон не забудзе ніколі свой голас.***
***Я — апошняя ў свеце,***
***хто вежу збудуе сваю.***
***Па нябёсах чужых***
***залатое пракоціцца***
***кола,***
***А карэту ля райскае***
***Брамы спынілі маю.***
*(“І расколаты, звон не забудзе ніколі свой голас”...)*

У сваіх вершах Л. Рублеўская ўзіраецца ў прадонне душы, у чалавечае “я”, каб унутрана ачысціцца ад ілжывасці. Але асабліва вострую адказнасць адчувае паэтка за тое, што яна прыносіць людзям. У шматлікіх вершах выразна прасочваецца яе роздум над прызначэннем паэта і паэзіі. Ці ад Бога паэзія? Ці патрэбна яна нашым сучаснікам? Паэтка прызнаецца:

***Не для вас пішу. Не для сябе.***
***Вось цяпер, пры гэтай***
***лямпе цьмянай,***
***З водблескам гардыні на ілбе,***
***З беднай зоркай***
***у акне туманным —***
***З кім вяду бясконцы дыялог?***
***Перад кім мая начная споведзь?***

*Людміла Рублеўская, “Балаган”, “Полацкае ляда”, 2000 г.*

КНІГАРНЯ

# Энцыклапедыя горацкай зямлі

Кажаце, у нас не выходзяць рэгіянальныя энцыклапедыі? Сапраўды гэта так. Выпуск аналагічных выданняў вельмі працаёмкі, патрабуе вялікіх фінансавых затрат, таму выпуск энцыклапедый ці энцыклапедычных даведнікаў дазволіць сабе можа нават далёка не кожная краіна, а калі і выходзяць яны, дык звычайна маюць універсальны характар ці прысвячаюцца пэўнай тэме. Тым не менш ёсць падставы гаварыць, што з’явілася энцыклапедыя горацкай зямлі. Праўда, не ў прамым сэнсе гэтага слова, але... Кніга Уладзіміра Ліўшыца “Раскопкі вакол Горацкага “Парнаса”, што пабачыла свет у горадзе Горкі, прэтэндуе на выданне падобнага тыпу. Зразумела, з пэўнай агаворкай. У ёй няма артыкулаў-персаналій, матэрыял не размяшчаецца ў алфавітным парадку, але па сваёй усёахопнасці, насычанасці фактамі, па падачы імён яна прэтэндуе, каб звацца энцыклапедыяй, а калі канкрэтней — літаратурнай і навуковай энцыклапедыяй гэтага рэгіёна Бацькаўшчыны. А напісаў яе чалавек, пасапраўднаму ўлюбёны ў горацкі край, надзіва эрудзіраваны, які валодае талентам даследчыка і краязнаўцы.

Нарадзіўся ж У. Ліўшыц у горадзе Красны Кут Саратаўскай вобласці (Расія), а лёс звязаў з горадам Горкі. Кандыдат філасофскіх навук, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі па вывучэнні нацыянальных меншасцяў. Працуе дырэктарам Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея, з’яўляецца дацэнтам кафедры маркетынгу і права Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, аўтарам больш дваццаці кніг па гісторыі і краязнаўстве. І ўсе яны ў той ці іншай ступені звязаны сваім зместам з горацкай зямлёй. Сталі, паводле слоў самога Уладзіміра Маісеевіча, вынікам “раскопак вакол Горацкага “Парнаса”. “Парнасам” жа з далёкіх часоў называецца ўзгорак на тэрыторыі сельскагаспадарчай акадэміі. З ім некаторыя даследчыкі звязваюць і напісанне знакамітай паэмы “Тарас на Парнасе”. Калі ж глядзець шырэй — “Раскопкі вакол Горацкага “Парнаса” — гэта даследаванне ўсяго таго, што тычыцца літаратурнага, навуковага, культурнага жыцця Горацчыны ў розныя часы.

Дарэчы, У. Ліўшыца цікавіць і гісторыя напісання паэмы “Тарас на Парнасе”. Развагамі наконт гэтай праблемы ён дзеліцца ў артыкуле “Ці з горацкай прапіскай быў Тарас? (З гісторыі горацкай версіі напісання паэмы “Тарас на Парнасе”), якой адкрываецца першы раздзел кнігі — “Вучыліся ў Горках”. Тут жа змешчаны і артыкул “Упершыню ў літаратуры”. Як вядома, “15 жніўня 1840 года ў Горках была адчынена земляробчая школа, ператвораная ў 1848 годзе ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут — першую ў Расіі вышэйшую сельскагаспадарчую навучальную ўстанову”. У. Ліўшыц устанавіў, што аб гэтай навучальнай установе стала шырока вядома ў 1857 годзе, калі было апублікавана апавяданне “Поярков” П. Мельнікава, вядомага пад псеўданімам Андрэй Пячэрскі. Аўтар гэтага твора выпадкова сустрэўся з прыставам, які займаўся вымаганнем. А пачалося з таго, што ён пазнаёміўся з цыркулярам “Аб аддачы малалетніх сялянскіх дзяцей у Горы-Горацкую школу Магілёўскай губерні”. Прайдзісвет пачаў аб’язджаць багатых сялян, тлумачачы ім, “што гэта губерня за Сібір’ю, на самым краі свету. І ўся яна на магілах. А на тых магілах гара, і на той гары школу завялі... Сялянскіх дзетак там усякаму гору навучаюць. А таму і названа “на горы Горацкая школа”. Пасля пачутага сяляне стараліся адкупіцца, каб не пасылаць дзяцей на вучобу.

Факт цікавы, а паколькі далёка нямногія знаёмы з гэтым апавяданнем, дык досвед У. Ліўшыца вельмі важны. Як і цікавыя развагі пра тое, як адзін з горацкіх студэнтаў стаў прататыпам вядомага літаратурнага героя (“Студэнт з Горак — прататып Рахметава”). Чытаеш жа артыкул “Ода ў гонар сахалінскай урадлівасці” і робіш для сябе яшчэ адно адкрыццё. Аўтарам кнігі “Очерк истории Сахалина в сельскохозяйственном отношении”, якую высока цаніў А. Чэхаў, быў выхаванец Горы-Горацкага земляробчага інстытута Міхаіл Міцуль. У. Ліўшыц расказвае таксама пра малавядомага паэта і літаратуразнаўцу Уладзіміра Прыбыткоўскага (“Рабіся хутчэй чалавекам...”), пра Леаніда Сахарава, які шмат спрыяў станаўленню Мікалая Дабралюбава (“Настаўнік вялікага літаратурнага крытыка”), і пра іншых, для каго Горкі сталі альма-матар.

Ужо раздзела “Вучыліся ў Горках” дастаткова, каб упэўніцца, наколькі плённыя вынікі дае даследчыцкая работа У. Ліўшыца,

*Не наважуся прамовіць — Бог*
*І ніколі праўды не прамовіць.*

("Не для вас пішу. Не для сябе...")

Здаецца, што нельга ўявіць больш дакладнай карціны стварэння вершаў. Нельга адказаць больш шчыра на простае пытанне — "ты куды ідзеш — паэце?" Шлях Л. Рублеўскай відавочны — ідзе да Бога, раскрывае законы рэалізацыі свядомасці, духоўнае самавызначэнне чалавека, духоўны вопыт.

Але і ў тых вершах, дзе асэнсоўваецца ўласная творчасць, гучаць ноткі песімізму, пустэчы духоўнай. Магчыма, гэта няўпэўненасць у правільнасці абранага накірунку, адчуванне непатрэбнасці, занядбанасці слова. Такія думкі вынікаюць з прызнання паэткі:

*Дзень быў пусты, як душы.*
*Можа быць,*
*Мы хутка назавём яго найлепшым,*
*Я не жадаю болей гэтых вершаў.*
*Яны — нішто.*
*Анёл - ахоўнік спіць.*

("Выснова дня: ён мог бы і не быць...")

Напэўна, душа паэткі проста прагне цішыні, лагоды, каб душэўна адрадзіцца, прасвятлець і падужэць, знайсці згоду з жыццём, надзею. Вось у чым сэнс яе прызнання.

Адметнасцю творчасці Людмілы Рублеўскай з'яўляецца той факт, што вершы яе насамрэч ультрасучасныя. Паказчыкам гэтага можна лічыць зварот паэткі да міфалагічнай тэматыкі, якая апошнім часам "увайшла ў моду". Наогул, можна сказаць, што міфы, міфалогія, міфалагізацыя — гэта "канёк" нашай гераіні. Сама Л. Рублеўская гаворыць: "Я вызнаю свет, як міф, а чалавека, як міфатворцу. Усё, што мы ведаем пра наш свет, — гэта міфы, і частка іх створаная людзьмі свядома". І як пацвярджэнне гэтаму — усё той жа зборнік "Балаган", дзе адной са скразных тэм з'яўляюцца міфы рэальнасці, нашага сучаснага жыцця. Можна з упэўненасцю сказаць, што менавіта на міфе трымаецца кампазіцыйна-сюжэтны каркас зборніка.

Асноўнымі міфалагічнымі вобразамі вершаў паэткі з'яўляюцца такія персанажы, як Харон, Арэс, Мінатаўр, Апалон. Сярод біблейскіх персанажаў — Іосіф, Майсей, Ісус Хрыстос, анёлы, херувімы. Па сутнасці, уся творчасць Л. Рублеўскай ёсць кароткая гісторыя беларускай годнасці ў мастацкіх вобразах. У яе творчасці праблемы сучаснасці асэнсоўваюцца на матэрыяле ранейшых гістарычных эпох. Здаецца, што аўтар як бы "раздвойваецца"; пры дапамозе творчай фантазіі яна вандруе ў самае далёкае мінулае. Але, безумоўна, вершы, у якіх прысутнічаюць міфалагічныя матывы, надзвычай праецыруюцца на сучаснасць.

Асабліва паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца верш "Не падкажуць на развітанне..." Лірычная гераіня верша быццам бы трапіла ў іншы свет, у адвечную бясконцасць. Крочыць яна па беразе міфічнай ракі Стыкс, чакае човен Харона — істоты, якая перавозіць, паводле міфаў, душы памерлых на другі бераг, да Бога. Праз увесь верш сімвалічна праходзіць вобраз дарогі, апошняга шляху. Ён уяўляецца гераіні "бясконцым, гразкім і ліпкім". Душа памерлай крочыць па гэтым шляху, наступае ці то на жабу, ці то на гадзюку. Але для яе ўжо нічога не мае значэння. Гераіня не адчувае агіды, бо мёртвая. Такія ўяўленні паэткі аб "тым свеце", якія знаходзіцца за мяжой жыцця, рэальнасці, але мае пэўную сувязь з сучаснасцю.

*...Шлях бясконцы, гразкі і ціхі —*
*Не пляскочуць у Стыксе хвалі.*
*Ну, каб ведаў — не паміраў бы.*
*Дзе басяцкі той перавозчык?*

("Не падкажуць на развітанне...")

Выкарыстоўваюцца міфалагічныя матывы і ў вершы "Кляштар", дзе паэтка паказвае частку мінулага — бойку вояў, за якой назіраюць тыя ж міфалагічныя істоты. Да прыкладу, Арэс, бог вайны, што "разводзіць і зводзіць аслепленых злосцю", Брунгільда, якая

*...над чашаю, поўнай атруты,*
*Чакае цара пераможнага ў госці...*

("Кляштар")

У творы падкрэсліваецца ідэя разбуральнай моцы вайны, бо "са званоў зрабілі зброю" і таму стаіць нямая "каменная вежа на фоне адлігі". Нячутна тут іх званоў, толькі шаргочуць нягучныя словы малітваў, якія нікому не дадзена пачуць. Усюды пануе крывавая злосць, якую не спыніць на гэтай зямлі нават багам:

*"Бог з намі", —*
*гарлаюць абодва натоўпы.*
*Як гэта далёка. Як гэта дарэмна...*

(Там жа)

Чырвонай стужкай праз шматлікія вершы зборніка праходзіць вобраз Вавілона, Вавілонскай вежы. Існуе міф, што даўным-даўно людзі вырашылі пабудаваць вежу аж да самага неба, каб па ёй дабрацца да Бога. Творца, убачыўшы гэта, раззлаваўся і змяшаў мовы будаўнікоў, каб яны не маглі зразумець адзін аднаго, а значыць, і не здолелі скончыць сваю справу.

Па другіх міфічных паданнях, Бог пакараў людзей, якія будавалі вежу, ператварыўшы іх у нячысцікаў і пусцішы па свеце. Так і ў вершах "Гэта — горад карынфскіх калон...", "Воля выбару...", "Хай нікому больш..." і інш. сцвярджаецца думка, што тыя камені, якія б маглі скласці Вавілонскую вежу — "рассыпаныя на бездакорным Сусвеце" (верш "Воля выбару"). Каменні — гэта людзі, якія з-за сваёй прагі ўзвысіцца да Бога былі пакараны і раскіданы па ўсім Сусвеце.

Аб тым, што свет значна перамяніўся, перавярнуўся дагары нагамі, сведчаць радкі ўжо другога верша, дзе таксама праз вобраз Вавілонскай вежы перадаецца сэнс і значнасць сучаснага жыцця, яго сапраўдны твар. Жаночая душа паэткі чула рэагуе на той хаос, які разбурае ўсё на зямлі, на падзенне чалавечых нораваў, прынцыпаў і шчыра прызнаецца:

*...Разбураецца храм стагоддзя.*
*Вавілонскую вежу зараз*
*Мы будуем не ўверх, а ўніз —*
*у пачварныя сутарэнні,*
*за паверхам паверх — у цемру,*
*па спіралі з бетонных пліт.*
*Пераблытаны рай і пекла,*
*пераблытаны лёс і грэх.*

("Хай нікому больш...")

Сапраўды, у нашым жыцці пераблытаўся рай і пекла, мы не адрозніваем добрае і дрэннае, сапраўднае і падманнае, сумленнасць і здраду. Ніхто не адкажа на пытанне: куды мы ідзем? Да чаго прыйдзем і чым усё скончыцца? І ці скончыцца гэта калі-небудзь? А можа зноў збяромся, каб пабудаваць новую Вавілонскую вежу дзеля таго, каб знайсці адказы на свае пытанні? На мой погляд, менавіта гэтую ідэю аўтарка імкнецца данесці да сучаснага чытача.

Таленавітым міфатворцам паўстае Людміла Рублеўская і ў сваім трыпціху "Стары Запавет". Зноў зварот да Бібліі, біблейскіх міфаў, што сведчыць аб выключнай духоўнасці паэткі. Яна глядзіць на міфы даўніны з пункту погляду сучаснасці, аналізуе іх з вышыні сённяшняга дня, стварае атмасферу розных часоў у адным і тым жа вершы. Так, першая частка трыпціха пад назвай "Цудоўны Іосіф" прысвечана менавіта гэтаму біблейскаму герою, "анёльскаму хлопчыку", які не ўмее лгаць і з-за гэтага пакутуе ад людзей:

*І прадалі цябе твае браты...*
*...Абрыдзеў — бо інакшы...*

("Цудоўны Іосіф")

Ён "інакшы" — не такі, як усе. Не зведаў яшчэ ўсіх грахоў, да якіх такія звыклыя нават яго сучаснікі. Чалавек з чыстай душой не для нашага свету. І ўжо як голас з нашай сучаснасці гучыць пытанне паэткі

*...Ну хоць цяпер навучышся ілгаць,*
*Анёльскі хлопчык?*
*У людзях — прыдасца...*

(Там жа)

Звяртаючыся да Іосіфа з такім пытаннем, паэтка быццам бы хоча папярэдзіць яго аб будучым, хоча надзяліць жорсткім жыццёвым вопытам, каб выжыў ён у гэтым свеце.

Другая частка трыпціха "Нараджэнне Майсея" — прачулы кліч душы аўтара да людзей. Лірычная гераіня Л. Рублеўскай імкнецца паказаць, што за недарэчнымі штодзённымі турботамі, за жорсткасцю, зачарсцвеласцю душы мы не бачым таго каштоўнага, дабратворнага, што так рэдка, але ўсё ж дае нам жыццё. І вельмі часта мы ганьбім, не зважаем на тых, хто ўсімі сваімі намаганнямі робіць свет хоць крыху чысцейшым. Таму невыпадковы зварот паэткі да біблейскага вобраза Майсея — прарока, які ледзь не загінуў ад абмежаванасці і непрызнання "моцных" на гэтай зямлі.

*...І што нам чакаць*
*у егіпецкім нашым жыцці,*
*калі нараджаюцца*
*нашы прарокі так рэдка.*
*І мы не ўратуем нікога*
*з пракокаў сваіх.*
*Пад нашымі стрэхамі*
*Ім не знаходзіць прытулку.*

("Нараджэнне Майсея")

У апошняй частцы трыпціха "Сыход з Егіпту" зноў падкрэсліваецца ўсё тая ж абмежаванасць, зацвіласць людскіх душ, якім непатрэбна патрабавальная вера — толькі ягкаснае выратаванне: "...І Бог паміж іх — не заўважаны імі" ("Сыход з Егіпту").

Выключную актуальнасць вершаў паэткі падкрэслівае і факт адлюстравання ў іх стваральнага пачатку свету ў свядомасці чалавека на зломе эпох. Паказальным у гэтым сэнсе можна лічыць верш "2000".

Гэта верш-роздум, верш-асэнсаванне, аналіз паэткай свайго жыцця на "верхняй прыступцы стагоддзя". Сапраўды, зручны час для разважання над сваім жыццём. Чаго дасягнуў увесь свет у цэлым і ты адзін у прыватнасці, каб перайсці ў наступнае тысячагоддзе без сораму? Варта задумацца. А паэтка прыйшла да выспу, што стаіць на ростанях, не здольная выбраць сама, куды падацца. І верхняя прыступка стагоддзяў вядзе зусім не да неба, а, наадварот, "значна ніжэй і бяздонней". Няма прытулку ў гэтым свеце для яе, таму што "адбыўся падзел на крылатых і слізкіх". Яна прызнаецца:

*А я — на мяжы,*
*я не здольная выбраць сама,*
*Куды падавацца*
*ад гэтай мяжчасавай рысы.*

("2000")

Шчырасцю, глыбокім роздумам вее ад гэтых радкоў. Л. Рублеўская намалявала ўражлівы "пейзаж" душы, знайшла адухоўлена-выразныя псіхалагічныя фарбы, каб данесці да чытача свой унутраны стан і тым самым раскрыць філасофію часу і быцця, прымусіць нас угледзецца ўглыб уласных душ, у сутнасць чалавечага "я". Толькі так можна ачысціцца ад ілжы і з палёгкай увайсці ў новае стагоддзе і тысячагоддзе, пачаўшы адметнае на доўгачаканыя міласэрнасць, дабрыню сапраўднае жыццё...

**Таццяна ФЯСЬКОВА**

---

як умее ён адшукваць значныя факты, эпізоды, што тычацца гісторыі Гораччыны. А ў кнізе ж прадстаўлены і іншыя раздзелы: "Ішлі лісты...", "Былі на Горацкай зямлі", "Працавалі ў акадэміі", "Родам з Горацкага краю" і іншыя. Адкрыеш старонку-другую і не можаш адарвацца. Быццам і не даследчыцкія артыкулы чытаеш. І хоць часам аўтару бракуе лёгкасці ў падачы матэрыялу, на гэта не зважаеш, калі напаткоўваеш нешта малавядомае, а то і зусім для цябе невядомае. І тады застаецца толькі здзіўляцца, як жа пра ўсё не паспеў даведацца раней. І чарговы раз радавацца, што ёсць яшчэ людзі, падобныя У. Ліўшыцу, якія так уважлівыя да факта, а ў сваіх пошуках працуюць мэтанакіравана, апантана, не шкадуючы вольнага часу, каб толькі менела "белых плямаў" у нашай нацыянальнай гісторыі. Адначасова і іншым падказваюць, у якім накірунку весці свае даследчыцкія пошукі, ідучы далей, каб тое, што яшчэ цалкам не выверана, даказаць, а пра тое, што ўжо адкрыта, знайсці новыя факты.

Для прыкладу, насычаным атрымаўся раздзел "Працавалі ў акадэміі", у якім У. Ліўшыц расказвае пра знакамітых людзей, якія ў розны час у сценах гэтай вышэйшай навучальнай установы сеялі разумнае, добрае, вечнае. Сярод іх і выкладчык Горацкага земляробчага вучылішча Міхаіл Рытаў, які ў 1909 годзе прызнаваўся: "Адданы выключна адной сваёй справе..." Словы гэтыя вынесены ў загаловак нарыса пра М. Рытава, які менавіта ў Горках стаў знакамітым навукоўцам, аўтарам звыш 1000 артыкулаў на розныя сельскагаспадарчыя тэмы. Але М. Рытаў цікавы яшчэ і тым, што "быў аўтарам адзінага ў гісторыі беларускай літаратуры вядомага твора, напісанага ў XIX стагоддзі ў форме навуковай фантастыкі і сацыяльнай утопіі. Гэта раман "Путевые заметки и воспоминания 1889—1898 гг.", рукапіс якога захоўваецца ў фондах бібліятэкі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Сам жа М. Рытаў — не тутэйшы, нарадзіўся ў горадзе Новамігарадзе колішняй Херсонскай губерні. Вартыя ўвагі і аповеды У. Ліўшыца пра Міхася Ганчарыка ("...Беларускі дзеяч яшчэ з нашаніўскіх часоў"), Сяргея Фаміна ("Спаткаў яго трагічны лёс"), Юрку Гаўрука ("Быў чалавекам вельмі светлай душы..."), Паўліну Мядзёлку ("Была адорана шчодра..."), Алеся Вечара ("Самабытны паэт") і іншых. Пра кожнага з іх ён знаходзіць ухвальныя словы і пра кожнага імкнецца расказаць як мага шырэй, глыбей спасцігнуўшы сутнасць зробленага. У якасці падмацавання ўласных думак У. Ліўшыц нярэдка прыводзіць вытрымкі меркаванняў вядомых людзей, а гэта надае нарысам яшчэ большую пераканаўчасць.

У асобны раздзел ("Таленавітая сям'я") вынесены матэрыялы "Памножана будзе слава айчыны" і "Жанчына вялікага сэрца і мужнасці". Гаворка пра Максіма Гарэцкага і яго жонку, таксама пісьменніцу Леаніду Чарняўскую. І хоць пра М. Гарэцкага апошнім часам напісана вельмі шмат, У. Ліўшыц не паўтараецца. Ды і найбольш расказвае пра горацкі перыяд у жыцці Максіма Іванавіча. Звесткі, якія прыводзіць, даюць магчымасць яшчэ лепш зразумець і ўсвядоміць значнасць таго, што зрабіў М. Гарэцкі не толькі ў літаратуры, а і дзеля адраджэння Беларусі. У нарысе ж "Жанчына вялікага сэрца і мужнасці" паўстае воблік Л. Чарняўскай, імя якой пачало вяртацца з небыцця толькі паралельна нядаўна. А яна заслугоўвае ўдзячнай памяці нашчадкаў, бо шмат працавала па складанні падручнікаў, сама пісала творы, у першую чаргу для дзяцей.

Уяўленне аб кнізе будзе няпоўным, калі не згадаць раздзел "Галасы з Горацкага Парнаса". Гэтым разам У. Ліўшыц расказвае пра тых, хто працягвае традыцыі сваіх папярэднікаў, уласнай творчасцю нагадвае, што тамашняя зямля не збяднела на таленты: Ніну Кавалёву, Анатоля Прахарава, Льва Васільева, Святлану Цярэшку, Сцяпана Сідарава, Сяргея Лоцманава, Таццяну Гісер, Аляксандра Клачкова... Кожны з іх піша ў меру сваіх творчых магчымасцяў. У адным нельга адмовіць гэтым аўтарам — у жаданні прамаўляць сваё слова тады, калі душа прагне споведзі.

Як бачым, "Раскопкі вакол Горацкага Парнаса" сапраўды прэтэндуюць на энцыклапедыю гэтага кутка Беларусі. Застаючыся вельмі ўдзячным аўтару за такую вялікую працу, са спадзяваннем думаеш, што і ў іншых раёнах знойдуцца прадаўжальнікі добрай справы У. Ліўшыца. Там жа працуе нямала апантаных краязнаўцаў. Ды і многія з тых, хто стала прапісаўся ў сталіцы, не пакідаюць сувязі з роднымі мясцінамі. Каб жа аддзелы культуры пайшлі ім насустрач, як гэта зрабіў аддзел культуры Горацкага райвыканкама, пад эгідай якога "Раскопкі..." з'явіліся. А яшчэ, каб знайшліся жадаючыя прафінансаваць выданне (У. Ліўшыц выказвае шчырую падзяку Магілёўскай асацыяцыі "Кола сяброў" за дапамогу ў выданні гэтага зборніка). Глядзіш — і ў іншых раёнах з'явяцца падобныя кнігі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

## Слонім на старых паштоўках




У Слонімскай друкарні пабачыў свет буклет "Слонім на старых паштоўках", які падрыхтавала да выпуску дырэктар мясцовага раённага краязнаўчага музея Ірына Шпыркова.

Выпуск старых паштовак Слоніма прымеркаваны да 750-годдзя з таго часу, калі першы раз упамінаецца наш горад пад назваю Услонім у Іпацеўскім летапісе. Гэтую дату слонімцы адзначаць у наступным годзе.

Буклет складаецца з 24 фотаздымкаў. На іх адлюстраваны выявы Слоніма, выкананыя ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя мясцовымі фатографамі Б. Вайнштэйнам і Г. Браўнам. Ірына Шпыркова зрабіла вельмі цікавы і арыгінальны падбор здымкаў старога Слоніма. Некаторыя здымкі раней нават нідзе не друкаваліся. Напрыклад, рыбны кірмаш на Школьнай вуліцы ў 1916 годзе, пажар у Слоніме ў 1918 годзе, гарадскі рамізнік на вуліцах горада ў пачатку XX стагоддзя і іншыя.

Старых здымкаў пра горад над Шчараў выпускалася і захавалася да сённяшняга дня вельмі шмат. Добра было б выпусціць яшчэ некалькі падобных буклетаў са старымі паштоўкамі Слоніма.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# "Монодия"

Менавіта так: "Монодия", а не "Мелодия", як больш звыкла для слыху, называецца кніга паэзіі Юрыя Юлава, выпушчаная "Тэхнапрынтам". Імя гэтае чытачу, які ўважліва сочыць за кніжнымі навінкамі, вядома: на творчым рахунку Юрыя Юлава (сапраўднае прозвішча Гарбачоў) два раманы, пра якія "ЛіМ" у свой час паведамляў, а таксама зборнік баек. Піша Юрый Юлаў не толькі па-руску, а і па-беларуску, аб чым засведчылі яго паэтычныя падборкі на старонках часопісаў і газет, гэтым разам пад псеўданімам Юрась Нераток. Знаходзяцца нават ахвочыя параіць Юрыю "кідаць" рускую мову і пісаць толькі па-беларуску. Пра гэта, дарэчы, згадвае ў прадмове "К невидимым далёким берегам..." і Анатоль Аўруцін, заўважаючы, што для Ю. Юлава "абедзве мовы аднолькава родныя і піша ён на той, на якой папярэдне бачыў сны, на




якой менавіта цяпер хочацца заплакаць... І на змову з сумленнем, асабліва калі гаворка заходзіць аб творчасці, Ю. Юлаў існі не збіраецца". Як падмацаванне сваёй думкі А. Аўруцін і прыводзіць такія радкі Ю. Юлава:

*Я могу быть и прост и приятен,*
*но ни разу сквозь шелест молвы*
*сочетание "легкий характер"*
*обо мне не услышите вы.*

А пра тое, як нараджаюцца творы ў снах, можна даведацца з верша "Поэту в себе". Як і пра тое, што з гэтага атрымліваецца:

*Так иногда во сне*
*Стихи легко и складно*
*ты творил и пел,*
*да слез в слова влюблен.*
*Они текли извне,*
*и до чего ж досадно,*
*что вспомнить не сумел,*
*когда умчался сон!*

Сам Ю. Юлаў спявае свае вершы і ў сапраўднасці, бо ён не толькі паэт, а і бард, але вылучаецца сярод іншых бардаў, на што таксама звяртае ўвагу А. Аўруцін: "...сярод бардаў, нават вядомых, далёка не ўсіх можна назваць паэтамі — звон гітарных струнаў і хрыпата "пад Высоцкага" многім замяняюць, у крайнім выпадку — знешне, чыста паэтычны дар. Пры чытанні іх твораў часцей за ўсё адчуваеш пачуццё расчаравання... Ю. Юлаў у гэтай сітуацыі — шчаслівае выключэнне. Шчаслівае — таму, што ён перш за ўсё паэт, а потым ужо — чалавек, які спявае напісанае пад гітару. Яго м о ж н а чытаць вачыма, а большасць бардаўскіх вершаў — не".

Аднак асабліва ўдаюцца, як на маю думку, Ю. Юлаву ўсё ж вершы, у якіх на першым плане не жаданне стварыць адпаведны настрой, а заглыбленне ў сэнс жыцця з усімі яго складанасцямі, якія самі па сабе непаўторныя, бо што б ні напаткоўваў чалавек на сваім шляху, ён жыве. Бадай, пра гэта верш "Экватор":

*Среди ночи заколет в груди,*
*а с утра — мёртвый привкус во рту...*
*Мой экватор уже позади —*
*я уже перешел ту черту.*
*Ту, к которой стремился стремглав*
*от холодного Южного полюса.*
*К ней я шел по пустыне и вплавь*
*и пришел, не успев и опомниться.*
*А на Северном — холод и лёд.*
*Ноги сами идут, а глаза,*
*что смотрели с надеждой вперед,*
*смотрят так безнадежно назад.*

Лірычны герой, аднак, не крыўдуе на лёс, успрымаючы яго такім, які ён ёсць, але адначасова праяўляючы характар, тую жыццёвую ўпартасць, настойлівасць, дзякуючы якой, нягледзячы ні на што, можна дасягнуць многага. І гэта не проста жыццёвы аптымізм. Гэта — уменне жыць. І ўменне пісаць адметна і хораша:

*Из рукава Судьба таскает козыри,*
*а мне — расклад по мизеру дала.*
*И я — как-будто в середине озера*
*в дырявой лодке ночью без весла.*

*И обо всем подумав неразборчиво,*
*я брошу лодку дряхлую врагам,*
*и поплыву умело и настойчиво*
*к невидимым далёким берегам.*

Застаецца толькі пажадаць Ю. Юлаву ўпэўненага "плавання". І ў паэзіі, і ў прозе.

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

## Алесь ПІСАРЫК



•

*Не клікай, гора, за сабою!*
*Журблівых сноў не разгадаць.*
*Душа спагадная да болю*
*Адно, што крыжык не аддасць.*

*Не ўсе малітвы будзяць Бога.*
*Пагоні грэбліва за тых,*
*Каго цівун прыспічыў строга*
*Хлусіць над мошчамі святых...*

*І ўсё-ткі свет спагадай свецел!*
*Хоць песню загрудкі бяруць —*
*Жыве святарная на свеце*
*Спагадлівая Беларусь!*

### Старасць

*Чалавек без сям'і — пустацвет,*
*Чэзнуць годы — як чэзне завязь...*
*Замаркоціўся белы свет —*
*На планіду крыўдуе зайздрасць.*
*На зязюлін ручнік варажыў —*
*Чуў, як сцены ваўкамі галосяць.*
*Да ўсіелай самоты дажыў,*
*Духу выдзюжаць не засталося.*
*Не пакінута кроплі віна.*
*Не завітвае ў весніцы старац.*
*Скачанелая — да вакна*
*Барадой прымярзае старасць.*
*Сушыць слёзы знясілены лёс,*
*Журыць сэрца аслеплая стома.*
*Белым паркалем — іней бяроз.*
*Рукі склала душа. Вось і дома.*

### Незабыўнае

*На скронях снег былога болю.*
*У снах збярог тваё "люблю"...*
*І па рамонкаваму полю*
*Наўскрык жураўкаю лаўлю.*

*Каханнем страсці прысягаю.*
*Зарніцам радасна да слёз*
*Пачуць сардэчнае "кахаю"*
*Святой пасланніцы нябёс...*

•

Elle a ete douce
devant la mort...

*Над раскрытай кнігаю —*
*Старыцай ракі*
*Надрывае кнігаўка*
*Голас трапяткі.*
*Жаліцца, гаротная,*
*Што ў зеніце лет,*
*Душы прываротныя*
*Засланілі свет.*
*Белая, як воблачка,*
*Над вадой плыла.*
*Адкружыла долечка —*
*Лодка без вясла.*
*Абнялася з вербамі,*
*Слёз не праліла.*
*Беларусі вернаю*
*Донечкай была.*

•

*Сэрца дыхае ў шоўк бірузовы,*
*Задыхаюцца цнотаю губы...*
*Я паверыў, што падаюць зоры...*
*— Гэта слёзы*
*з вачэй маіх, любы!*

*Амазонка, слязой прыварожнай,*
*У вірах сваёй тайны загубіш...*
*— Я хачу быць табе самай роднай,*
*Толькі б ведаць,*
*што ты мяне любіш!..*

•

*Як жывём — так і маем ад веку.*
*Перад памяццю роспачных лет*
*Слову ў сэрцы балюча ад здзеку...*
*Прыгажосць не ратуе Сусвет.*

*Акаянных не зміраць званіцы,*
*Хоць забі — не прызнаюць хлусні.*
*На сумленне плююць камяніцы,*
*Ацураліся вёскі радні.*

*І чуваць,*
*як за шырмай сутоння, —*
*Колькі літасці там ні прасі, —*
*Нехта слёзна й пакутліва стогне*
*Перад тым,*
*Каму нельга схлусіць...*

•

*Каму за сябе не балюча?*
*Галей, а вужлівым не будзь!*
*Адгор'і ў шчаціне калючай —*
*А сэрцаў арлы не дзяўбуць!*

*Самотных асмейвае гора,*
*Занудлівых топіць ручай.*
*У месяца шабля мангола! —*
*Уголас прыгадвае гай.*

*Нішто не праходзіць задарма,*
*На ўсё —*
*Свой зваротлівы шлях:*
*Паджарвае Жана жандарма*
*На тых жа крывавых вуглях...*

•

*Быў дзед на беды — багачом!*
*Вятры ўпрыціх расказвалі,*
*Як ніве вочы кумачом*
*Бязбожнікі завязвалі...*
*Вызвольны дух жыве ў барах*
*З братамі перуновымі.*
*Спяць валуны на хутарах —*
*Кальчугі пад галовамі...*
*Хлуслівы век дамогся зла*
*Айчыне абатрачанай:*
*Няскупнай спадчына была,*
*А стала раскулачанай...*

•

*Дрэмле смугольны Бабчын.*
*Ціш і спакой.*
*Вецер сявеньку лашчыць*
*Цёплай рукой.*

*Там, дзе блукаюць здані, —*
*Лужыны ўсхліп.*
*Лёс праклінаюць кані —*
*Дрыжыкі ў ліп.*

*Весніцы ў небе насцеж.*
*Колькі ні стой —*
*Чокаецца няшчасце*
*З горам-бядой...*

### Прыгажосць

*Жніўнем выспелі зоры, як зёрны.*
*Разрумянілі шчокі дажджы.*
*Ці не вычарпаў месяц азёры?*
*Глянь, ліліі ў астральным каўшы!*
*Ты кахала другога? Забудзем*
*Пра мінулае, як пра падман,*
*У лугах тваёй тайны заблудзім,*
*Развяселім пануры туман.*
*Лета ў восень глядзіць з аблачыны —*
*Там склікае багінь вінаград,*
*Там на шчасце загадвае шчыры,*
*Жураўлінай душы, зарапад...*
*Прыгажосць не хавае маршчынак.*
*Наша ноч нам не стане чужой.*
*Верыць лета, што побач жанчына —*
*З неабкрадзенай, чыстай душой.*

### Паэзія

*Маладосць піла па поўнай,*
*Заляцалася ў стагах.*
*З сарамлівасцю чароўнай*
*Распраналася туга.*

*Спагадала вёснам доля.*
*Чула шчасце, што яно*
*З рук любімай — маладое,*
*Нагаворнае віно!*

*Што было — таго не будзе!*
*А забыцца не магу*
*Верш, які пяшчотай будзіць*
*Сінявокую тугу.*

•

*Лясы-пагарэльцы*
*шукаюць спагады*
*У шчырых нябёсаў*
*і ландышаў белых.*
*Грамы-дубачосы,*
*яны — як магнаты —*
*Не разумеюць*
*ваколіц збяднелых.*

*Шляхамі нашэсцяў*
*блукаюць бураны...*
*На ўрочышчах*
*слепне ад гора дарога.*
*А побач — крыжы,*
*аксаміткам прыбраныя,*
*Усходзяць з малітвай*
*да Госпада Бога...*

•

*Не чуў, каб шах паэту ставіў мат.*
*Паэт спяваў, дарыў вякам паэмы.*
*Шэхеразаду славіў азіят,*
*Эдэмаў сад нагадвалі гарэмы...*

*Славянскі свет слыў*
*жорсткасцю сваёй,*
*Паслаў пад кулю Пушкіна — за слова!*
*Дваццаты век заліў душу крывёй*
*Ясеніна, Купалы, Гумілёва...*

*Талькову засланілі злыдні свет,*
*Збаяліся дакору незямнога.*
*Памры, а не схлусі сябрам, паэт,*
*Калі ты сапраўды — Пасланнік Бога!*



ПРОЗА



Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ

# ТАЯ, ЯКАЯ ЗБІРАЕЦЦА НА БАЛЬ

ЖАНОЧАЕ АПАВЯДАННЕ

*Марыне ВІШНЕЎСКАЙ*

Усё павінна быць проста гожа.

Нізкі стол перад люстрам, застаўлены парфумамі ды шкатулкамі з біжутэрыяй, дзве свечкі, што сталі дыханне па абодва бакі ад люстранога шкла, масіўнае крэсла з высокай спінкай, на якім зараз сядзіць яна — тая, якая збіраецца на баль.

Гэта павінен быць першы баль у яе жыцці. Не таму першы, што яна яшчэ занадта маладая, а таму, што нідзе ніколі не бывала, не выязджала ў свет; не таму першы, што яна толькі цяпер, у сталыя гады, дамаглася таго грамадскага становішча, калі яе нарэшце пачалі запрашаць; не таму першы, што гэты баль — наогул першы за ўсю гісторыю яе горада. Гэта проста самы першы баль у яе жыцці, і яна мусіць на ім быць, мусіць паказацца на ім так, каб потым яшчэ доўга людзі згадвалі яе імя ў размовах, каб пасля таго балю вакол яе асобы разышліся чуткі ды плёткі, каб ужо ніхто і ніколі, ладзячы ў сябе нешта падобнае да балю, і ў думках не мог дапусціць, каб гэтае свята абышлося без яе — той, якая збіраецца на баль.

Яна толькі што вярнулася з вялікай, заглыбленай у блакітны мармур ванны. Яна скідае з сябе важкі цёплы халат і каторы раз уважліва разглядае сваё цела ў люстры. Цела не можа ёй не падабацца ўжо хоць бы таму, што яно належыць ёй, а не якой іншай, чужой кабеце, таму што ведае яна ўласнае цела так, як яго не ведае ніхто. І не таму, што яна не надта ўхваляла, каб нехта яшчэ, апрача яе самой, мог гэтак жа ахвяраваць гадзінамі жыцця, бясконца вывучаючы вуснамі яе прыгожае цела, падарожжы па якім — бясконцыя і поўныя нечаканасцей, азартныя і ўсёпажэрныя, калі часам, у канцы таго падарожжа, не стае нават паветра, глытнуўшы якога, можна праз колькі хвілін апрытомнець, а таму кроплі поту яшчэ доўга будуць збягаць па яе пругкай скуры, быццам бы першыя шарыкі ліпеньскага ліўня па гарачым прыдарожным пыле. Не, яна безумоўна любіць тыя падарожжы, але далёка не кожнага дапускае падзяліць з сабой той багаты на прыгоды і ўражанні шлях. І не таму, што сама яна капрызная ды пераборлівая, хоць без каліўца ўсяго гэтага, здаецца, ніводнай кабеце і жыць проста немагчыма. Яна жадае, каб у гэтыя гадзіны яе спадарожнік-мужчына забываў часам пра тое, хто ён ёсць, дзе жыве і кім сябе пачувае, а моўчкі, безадказна падпарадкоўваўся б кожнаму яе ледзь прыкметнаму капрызу, жаданню, жэсту — той, якая цяпер збіраецца на баль.

Яе доўгія, тонкія ногі прагнуць музыкі і танца, таму што яна выдатна ведае, на што здатныя гэтыя ногі; яе мускулістыя, трэніраваныя зацятымі падарожжамі клубы выпраменьваюць энергію маладосці, здольную спыніць раз'юшаны натоўп; яе лона загадкавае і трывожнае, як начное возера, у якім лупцуюць хвастамі ментузы; яе жывот — гэта святочны стол з незлічонай колькасцю страў, убачыўшы якія, мала хто не захлынецца слінаю; яе грудзі — два нахабныя стварэнні, якія, нібы магніты, заўсёды прыцягваюць позіркі мужчын, што цалкам зразумела, і кабет таксама, што зразумела яшчэ больш; яе рукі — аднaчасова і цёплыя ручнікі, і халодныя, абыякавыя кайданкі; яе шыя з пушком на патыліцы — неацэнная каштоўнасць, бо колькі было тых, ахвочых, гатовых за адзін дотык вуснамі да таго жоўтага пушка закласці, аддаць, спаліць усё, што яны маюць свайго; яе непрадказальныя вусны, якія могуць ці то падараваць пацалунак, ці то адкрыць шлях вострым, бы лязо, бялюткім зубам; яе нос, які імгненна адгукаецца на пах гатовага да падарожжа мужчыны; яе вочы, што звычайна безуважныя, але гэты спакой збольшага нагадвае разліты па зямлі бензін: дастаткова маленькай іскры, каб адбыўся выбух; яе вушы — празрыстыя і ружовыя, асабліва ў той момант, калі з імі сваволіць веснавое сонца; яе ідэальнай формы бровы, што самі па сабе нагадваюць схіленыя віхурай бярозы. Не, гэта ўсё здаўна і добра знаёмае ёй, але яна каторы ўжо раз не ў сілах адарваць ад сябе вачэй — ад той, якая працягвае збірацца на баль.

Яна падыходзіць да шафы і няспешна пачынае пераглядаць сукні. Гэтая вось, цёмна-зялёнага колеру восеньскай елкі, з доўгімі рукавамі і ніжэй за калені, прыдатная для дзелавых сустрэч, але ніяк не для балю, хоць швачка і ўклала ў сукню ўсё сваё ўменне, каб дагадзіць ёй, бо каму, як не жанчыне, падчас дзелавых перамоў выпадае пераконваць суразмоўцаў не толькі словам, але і рухамі прыхаванай тканінаю плоці? Гэтая вось сукенка — з няважкай тканіны, празрыстая, адкрытая кожнаму позірку, падабаецца ёй тады, калі яна плануе выбрацца ў падарожжа, бо яе галоўная вартасць — лёгка, без затрымак адасобіцца ад цела і, пырхнуўшы, як матыль крыльцамі, растаць у абдымках ночы. Гэтая, глыбокачырвонага колеру, безумоўна ўплывае на мужчын тады, калі яна жадае паказаць ім, хто сапраўдны гаспадар становішча: мужчына, які траціць розум і аддаецца толькі эмоцыям, робячыся бездапаможным, бы неразумнае ягня, ёй ужо нічым не цікавы, аднак калі нехта вытрымлівае вар'яцкую атаку гэтай чырвані, той робіцца ёй роўным партнёрам па прыгодах. Але яна ўсё ж выбірае доўгую, амаль да падлогі, строга чорнага колеру сукню з кароткімі рукавамі і глыбокімі выразамі па баках, пашытую з багатай, цяжкай тканіны, якая дазваляе ёй спакойна пачуваць сябе літаральна ў кожнай сітуацыі: калі яна, напрыклад, у гэтай сукні ганарліва, знешне нядбайна, але з вытанчаным разлікам апусціцца ў мяккае крэсла, закінуўшы нагу за нагу, з-пад гэтага разрэзу на баку імгненна паласне па вачах усіх прысутных яркае святло яе белых ног, ад якога многія па страчаным назаўсёды розуме гэтак жа лёгка губляюць і зрок; а глыбокае дэкальтэ тае сукні наталяе мужчын неўласцівай ім звычайна фантазіяй, калі яны пачынаюць ліпнуць ацалелымі вачыма да невялікага чырвонага каменьчыка, які гуляе з промнямі святла на канцы тонкага залатога ланцужка між грудзей і гэтак прыемна казыча іх — два нахабныя стварэнні той, якая збіраецца на баль.

Яна пад'едзе да палаца на чацверыку ў карэце адмысловай работы з двума жаўтатварымі лёкаямі на прыступках. Яна падкоціць проста да ганка, і чалавек ля ўваходу ў залу гучна ўдарыць жазлом па падлозе, і зала імгненна перастане гудзець, як толькі высока пад столь паляціць яе імя, і састарэлы маэстра, які дагэтуль любіць маладзенькіх скрыпачак і, дарэчы, карыстаецца ўзаемнасцю, убачыўшы яе, згубіць вострую, бы джала, палачку, а музыкі аркестра забудуцца на ноты і пачнуць іграць толькі таму, што нічога іншага рабіць не могуць, бо выконвалі тую музыку гадоў з трыста, і кельнеры з разносамі, на якіх у высокіх бакалах сваволіць шампанскае, стануць, аслупянеўшы, не зважаючы на тое, як пародзістыя ганчакі цягаюць са сталоў вэнджанае мяса. І сам гаспадар палаца наблізіцца да яе, пацалуе, нізка нахіліўшыся, руку, правядзе яе да пачэснага месца пад балконам, дзе знаходзіцца разгублены аркестр, і толькі тады жэстам рукі дазволіць прысутным аднавіць гутаркі, маэстра — падняць з падлогі страчаную палачку, музыкантам — звярнуць нарэшце ўвагу на ноты, кельнерам — разнесці сваволнае шампанскае, а ганчакам — разадраць спецыяльна для іх засмажанага парсюка. Тады яна, якая з'явілася на баль, пачне чакаць, хто першы запросіць яе на танец.

Гэта можа быць вось гэты малады, але, па ўсім відаць, ужо нахабны мужчына, што прывык да лёгкіх падарожжаў, якіх ён паспеў зрабіць ужо шмат і штораз — з новай спадарожніцай, аднак усе ягоныя жаданні напэўна выплеснуцца навідавок, як толькі ён убачыць той чырвоны каменьчык на канцы залатога ланцужка, што працягвае цалавацца з двума нахабнымі стварэннямі, і таму ёй адразу ж зробіцца з ім сумна, бо анійкай інтрыгі ў агульным з ім падарожжы знайсці проста немагчыма. Яе партнёрам па танцы можа зрабіцца вунь той ваенны, чые скроні падмарозіла ўжо сівізна, але цела дагэтуль выдае жаданне ўладарыць і загадваць, а таму кожнае падарожжа ён здольны разглядаць адно як ваенную аперацыю з нязменным для сябе выйгрышным заканчэннем. Гэта можа быць той хударлявы, з доўгімі валасамі мастак, але цела кабеты для яго — усяго толькі абавязковы атрыбут майстэрні, якіх ён пабачыў ужо столькі, што не ў сілах, калі будзе карыстацца імі як фарбай, стварыць шэдэўр нават для самога сябе. Яе можа запрасіць на тур той таўставаты, з іранічным выразам твару вядомы журналіст, які з задавальненнем вып'е з ёй па танцы кубачак кавы, але нават не зверне ўвагі ані на яе чырвоны каменьчык, ані на празрыстыя намёкі адносна магчымасці зрабіць непаўторнае падарожжа, бо ягоная галава занятая не далёкімі, неспазнанымі краінамі, а выключна фракцыямі зануднага парламента. Да яе, праўда, можа наблізіцца падцягнуты дыпламат з далёкага афрыканскага кантынента і ветліва ўсміхнуцца, дэманструючы, што ў ягоных вуснах не заходзіць сонца, а зубы адпачываюць у снягах Кіліманджара; падарожжа з ім можа стацца феерыяй экзотыкі і непаўторных эмоцый, але яна не дасць аніводнага шанцу ягонаму сэрцу ацалець, калі ён, абняўшы яе і паклаўшы ёй руку на спіну крыху ніжэй за талію, праз колькі імгненняў — а іначай і быць не можа! — пасуне яе яшчэ крыху долу і раптам адчуе, што ў яе пад гэтай чорнай, здрадлівай, такой прыцягальнай сукняй больш нічога не апранута! І гэта напэўна зробіцца апошнім імгненнем жыцця дыпламата-мужчыны — таго, што праз такую далячынь адважыўся з'явіцца на яе баль.

Вось чаму яна будзе таньчыць сама. Яна раскіне ў бакі свае свежыя рукі, якія, быццам крылы, панясуць яе па зале, і тады яна закруціцца, узняўшы галаву, а яе валасы падобна рыжай лавіне абрынуцца на спіну, і недзе там высока, пад самай столлю, яна ўбачыць маленькага аголенага хлопчыка з бялюткімі кудзеркамі на галаве і ледзь прыкметнымі крыльцамі за спінай, які, смеючыся, палюе на людзей з лука і пускае ў залу адну за адной нябачныя стрэлы; яна ўбачыць безліч галубоў, якія плюхаюцца ў вялікіх кашах, поўных белых рамонкавых пялёсткаў, і тыя лёгкімі сняжынкамі апускаюцца на прысутных, здзіўленых гэткім незвычайным відовішчам; яна ўбачыць крылатага каня, які ўголас чытае на лацінцы вершы, і з тузін нейкіх неакрэсленага полу нябесных жыхароў, што іграюць на струнах вясёлкі, быццам на агромністай шыкоўнай арфе — іграюць для яе, той, якая зараз таньчыць на балі...

Яна нацягвае лінялыя джынсы і проста на голае цела апранае стары, тоўсты швэдар. Яна перакрыжоўвае шыю шалікам і ў зношанай куртцы збягае сходамі ў краму. Яна нарадзілася дакладна ў гэты самы дзень колькі ўжо гадоў таму і хоча святкаваць тую падзею, выдатна разумеючы, што на належнае свята грошай у яе ўсё адно не хопіць. Купляе пачак пельменяў — а, можа, тым вечарам тут з'явіцца муж і па завядзёнцы пачне нешта шукаць у лядоўні? Потым у падземным пераходзе прыцэньваецца да кветак і нарэшце купляе сама сабе падарунак — чырвоную ружу на доўгай галінцы і хавае яе пад курткай. На вуліцы парыў ветру вырывае з рук парасон і нясе яго проста праз дарогу, ажно пакуль не шпурляе пад колы тралейбуса. Яна падымаецца на пяты паверх пад'езда, дзе заўсёды жывуць невынішчальныя пахі. Яна кладзе ружу на ложак, дастае бутэльку не надта дарагога віна і, ламаючы пазногці, нарэшце адкаркоўвае пітво. Налівае поўную гранёную шклянку і выпівае ўсё, не спыняючыся. Віно здаецца ёй залішне кіслым. Яна глядзіцца ў цьмянае люстра і моўчкі віншуе сябе з днём нараджэння. Потым пачынае спяваць. Яна спявае адной ёй вядомую мелодыю, слоў якой ужо і сама не памятае. Слёзы б'юцца аб донца шклянкі з рэшткамі віна. Але ж ёй вельмі хочацца свята, і таму яна праз колькі хвілін пачынае чуць высокую, урачыстую музыку, а разам з тым тое, як за шыбамі ўжо грукочуць па брукаванцы колы, іржуць коні, яна бачыць, як два жаўтатварыя лёкаі адкінулі прыступкі, што вядуць у карэту, гатовыя падаць ёй руку ў любое імгненне, калі толькі яна вырашыць паехаць. Карэта будзе чакаць яе столькі, колькі трэба будзе.

Яна выдатна разумее: мара — гэта заўсёды сама меней як мэта, да якой неабходна імкнуцца заўсёды. Таму яна кіруецца да шафы і пачынае пераглядаць сукні. І хутка выбірае з іх адну, тую, у якой яна некалі абавязкова паедзе на баль...









сагрэўся, каб успомніў, як яна іншым разам непакоіцца, баліць, — гэтая чалавечая душа... Хіба ж гэта не праца дзеля дня заўтрашняга: агульнае стварэнне культурнай прасторы, у якой толькі і магчыма ўзнікненне людскага жыцця.

— **Намаляваць можна ўсё?**

— Відаць, маецца на ўвазе як тэхнічны бок справы, так і духоўны?.. Наконт тэхнікі. Некалі думаў, што сонца намаляваць немагчыма. Я проста памыляўся! На паперы ці палатне пры пэўным прафесійным уменні можна зафіксаваць усё, што заўгодна. Але гэта недастатковая і нават неабавязковая ўмова для таго, каб быць сапраўдным мастаком. У прынцыпе, многія вельмі кепска малююць. Не буду ўзгадваць прозвішчы, але ўспомніце хаця б прымітывістаў. Не столькі важна, **як** ты малюеш, колькі — **што** ты "гаворыш" малюючы... А наконт духоўнага аспекта заўважу, што перад творцай узнікае з пункту гледжання этыкі процьма табу. Я, напрыклад, у сваіх працах ніколі не прыніжаю годнасць асобы, не раблю чалавека больш кепскім, чым ён ёсць на самай справе. Згодны, тут у кожнага свае падыходы, свая мараль, свая этыка. Усе мы розныя, на жаль і на шчасце.

— **Дык што ж за рэч такая — прафесіяналізм?**

— Высокага кшталту рамесніцтва плюс адпаведна высокі ўзровень духоўнасці.

— **А непрафесіяналаў вакол шмат?**

— Ды спрэс з імі сутыкаешся. Людзі пішуць, малююць тое, чаго не ведаюць. Аднак стаўлюся да гэтага досыць спакойна. Такіх "профі" заўжды шмат. Больш таго, яны заўжды навідавоку, заўжды на паверхні плаваюць. Але мы ўжо казалі пра гэта...

— **Калісьці на лімаўскіх старонках паэтка Раіса Баравікова паспрабавала адказаць на ўласнае пытанне — "што чытаў Вітаўт?" Цікава, а якой зброяй валодаў вялікі князь? Пасля афармлення гістарычных твораў вы ў гэтым накірунку чалавек дасведчаны.**

— Несумненна, што быў у Вітаўта на ўзбраенні канчар — вяршыня эвалюцыі сярэднявечнага еўрапейскага мяча. Канчар — зброя сур'ёзная: лязо вузкае і доўгае, адпаведная дзяржальня з навершынай-балансірам, крыжавіна да 20 сантыметраў. Меч гэты прызначаўся толькі для колючых удараў, бо кальчугу, якая адышла ў нябыт, замяніў з поспехам суцэльнаметалічны каваны панцыр. Па гэтай жа прычыне і шчыт выконваў толькі геральдычныя функцыі. Валодаў Вітаўт і кап'ём. Карацей, пра зброю я магу бясконца...

— **На ваш погляд, у чым сутнасць прыгажосці?**

— Не ведаю. Яшчэ Леанарда да Вінчы спрабаваў разабрацца ў яе сакрэтах. Трывалых стандартаў, як паказвае жыццё, тут няма. Яны, натуральна, мяняюцца з цягам часу.

— **Мабыць, прыгажосць — гэта рух?**

— Ну, у кожнага свае меркаванні. У мяне на слова "рух" толькі дзве асацыяцыі. Першая — выказванне, здаецца, з Гегеля: "Цывілізацыя — рух да свабоды". Другая — уласны малюнак пад назовам "Рух", на якім рыжы конь...

— **Дарэчы, ваша палымяная любоў да коней чым выклікана? Вы ж патомны гараджанін!**

— Ды па сутнасці ўсё менавіта з коней і пачалося. І дарэмна вы так, у Мінску майго дзяцінства коней было не менш, чым зараз у вёсцы. Звычайная на той час цяглавая сіла, дый міліцыі коннай хапала. А побач з нашым домам адзін конік пастаянна спыняўся (не памятаю ўжо, па якой прычыне). І заўжды вельмі цікава было за ім назіраць. Штосьці ў коніка з нагой было, заўжды яе прытуляў, як бусел, і ціхенька так да болю прыслухоўваўся. Вось менавіта гэтага коніка я ў тры гады і паспрабаваў намаляваць... Шмат пра коней і дзед расказваў — кавалерыстам быў зацятым. Так, конь — унікальны прадукт чалавечай працы, пяць тысяч год ён разам з намі. І невядома, якім бы накірункам пайшла еўрапейская (дый не толькі) культура, калі б не гэтая жывёліна. Натуральна, сабака быў першы чалавечы сябра, ён вельмі падобны на нас. Але й конь — ледзь не наш адбітак. Такі ж смелы, рашучы, але й палахлівы і безразважны адначасова. Словам, той жа чалавек, толькі крыху лепшы.

— **У які бок змяніўся на вашых вачах Мінск?**

— У дзяцінстве ўсё было лепшым. І вада больш макрэйшай здавалася, і сонца больш цёплым. А зараз... Больш п'яных на вуліцах і ў транспарце, больш мітусні нейкай незразумелай... Але ўсё роўна гэта мой родны горад. Ён частка мяне. Ён мяне не выштурхоўвае, церпіць, мо нават любіць. Заўжды адказваю ўзаемнасцю.

— **Вас не палохае сённяшні сусветны наступ гэткага татальнага дабра? Яно сапраўды павінна быць з кулакамі? Калі так, дык з якімі ж мускуламі бадзяецца па свеце зло?**

— У тым і справа, што не дабро з кулакамі, а людзі... І ў кожнага сваё сумленне, свая праўда, сваё неба і сонейка, свае ўяўленні пра дабро і зло... Мы зараз з вамі спрабуем за некалькі хвілінаў разабрацца ў тых пытаннях, на асэнсаванне якіх іншым разам не хапае й жыцця.

— **А вас білі калі-небудзь?**

— Бацькі — ніколі. А вось з хлопцам-равеснікам бойка аднойчы ў дзяцінстве была. Першы раз і апошні. І распачаў яе менавіта я. Нечым ён мне душу так развярэдзіў, што прыйшлося кулакі ў ход пускаць. Кухталёў у адказ атрымаў страшэнных... Любы з нас здольны на вельмі радыкальную жорсткасць у пэўных абставінах. Нават у абсягах адной душы суіснуюць дабро і зло. Што ўжо пра ўсё чалавецтва казаць...

— **І апошняе, Уладзімір Аляксандравіч. Маляваць для вас — гэта...**

— ...працэс інтэлектуальнага разнявolения. З непазбежным і вельмі актыўным уключэннем свядомасці і эмоцый. І, як правіла, адбываецца гэты працэс не па заказе, не па загадзе зверху, а па простай патрэбе душы. Рабіць і зарабляць — рэчы вельмі адрозныя...

**Гутарыў Яўген РАГІН**

ЗГАДКІ

# Нарадзіўся пад гукі флейты, памёр у руках з ксілафонам...

Бацька яго — шкловец, быў вандроўны музыка, вядомы не толькі ў Магілёўскай губерні. Наведваўся ў Маскву. Каб пракарміць сям'ю, граў на флейце на вяселлях, пераважна сялянскіх, на хрэсьбінах і гуляннях у сёлах, блізкіх да Шклова. Тут у яго нарадзіўся сын — Восіп Гузікаў. Было гэта 195 гадоў таму...

Сын Восіп з маленства акунуўся ў свет музыкі. Ужо ў дзесяць гадоў мог сапернічаць з бацькавай ігрой на флейце. Пры гэтым не ведаў нот. Учэпістая юначая памяць занатоўвала мноства мелодый народных песняў, танцаў, найгрышаў — беларускіх, рускіх, украінскіх, яўрэйскіх. Восіп нават мог замяніць свайго бацьку і меў не меншы поспех за яго. Найчасцей ён выступаў у дуэце са старэйшым братам, які віртуозна граў на скрыпцы.

Наперакор сыну бацькі ажанілі Восіпа ў 16 гадоў — патрапілася, відаць, пасажная нявеста. Даволі хутка займелі двое дзетак. Прыбавілася сямейных клопатаў. А неўзабаве абрынулася на таленавітага музыку бяда: захварэў на сухоты. Фізічна аслаблены, ён ужо не мог іграць на флейце...

Але Восіп не спанікаваў, надумаў займець музычны інструмент, якога яшчэ не было. Ён не ведаў матэматыкі, быў прафанам у законах акустыкі. Тым не менш сканструяваў першы ксілафон. Навінка сваім гучаннем здзівіла і захапіла музычнае асяроддзе Еўропы. Праўда, першымі слухачамі і цаніцелямі, нават суддзямі былі простыя сяляне ў ваколіцах Шклова. Іх захапляла ігра Восіпа, дзіўнае гучанне новага інструмента.

Але доўга задавальняцца прызнаннем мясцовай публікі ён не мог. Рашыўся адправіцца ў Маскву. Там "стары знаёмы" быў прыхільна сустрэты і "з новым інструментам". За Масквой быў Кіеў. У гэтым горадзе гастрольны шлях В. Гузікава перакрыжаваўся са шляхам польскага скрыпача і дырыжора К. Ліпінскага, які быў зачараваны ігрой музыкі-самавука. Падтрымка масцітага музыканта акрыліла, і В. Гузікаў з яшчэ большым энтузіязмам удасканальваў ігру на сваім вынаходстве. Набыў вядомасць у Польшчы, Германіі, Аўстрыі, Францыі, Галандыі.

Як адзначалася ў тагачаснай перыёдыцы, у старажытным Кракаве яго прымалі "с величайшими почестями". Вяршыняй яго славы сталіся выступленні ў музычнай Вене. Потым яго захоплена слухалі знаўцы музыкі ў многіх гарадах Германіі. Папулярны нямецкі кампазітар, піяніст і дырыжор Ф. Мендэльсон ацаніў шклоўца даволі высока: "Гэта сапраўдны феномен, выключны музыкант, які стаіць не ніжэй за любога вялікага віртуоза як па манеры выканання, так і па сваім сталым майстэрстве. І таму ён парадаваў мяне сваёй ігрой на гэтым драўляна-саламяным інструменце куды больш, чым многія сваёй ігрой на фартэпіяна, хаця інструмент ягоны вельмі няўдзячны... Як бы тое ні было, я ўжо даўно не ведаў такой асалоды ад канцэрта, бо Гузікаў сапраўды геній".

21 кастрычніка 1837 года знакаміты шкловец памёр у нямецкім горадзе Ахене. Гэта здарылася ў час канцэрта. Як сэрца маэстра перастала біцца, так змоўк інструмент у яго руках...

Вядома, што патрабавальная заходнееўрапейская публіка параўноўвала Гузікава з Паганіні. Прыгадайма таксама выказванне Ф. Мендэльсона: "...Гузікаў сапраўды геній". І мы павінны яго імя ўшанаваць, увекавечыць, хаця б назваўшы адну з вуліц Шклова вуліцай Восіпа Гузікава. Тым больш, што згадвалі пра яго і раней (гл. "ЛіМ" за 16.10.98 г., "Шклоўскі геній, параўнаны з Паганіні" Л. Анціпенкі. — **Рэд.**), а сёлета мінула ўжо 195 гадоў ад часу яго нараджэння.

Зразумела, справа не ў юбілейных датах. Асоба шклоўскага музыкі-самавука заслугоўвае ўвагі, каб быць у памяці нашчадкаў.

**Л. АНЦІПЕНКА**

*г. Шклоў*

ВЫСТАВЫ

# Нібы вузлы на памяць

У Мінскім аддзяленні Гандлёва-прамысловай палаты (вуліца Якуба Коласа, 65) 11 кастрычніка адбылася прэзентацыя выставы жывапісу і графікі, прысвечаная 45-годдзю творчай дзейнасці Міхала Андрэевіча Карпука. Творчасць гэтага майстра, на жаль, не надта вядомая шырокай грамадзе. Прычым "за кадрам" у літаральным сэнсе. Бо ён мастак кіно і тэлебачання. Публіка звычайна ведае рэжысёра, выканаўцаў галоўных роляў, іншы раз — аператара. Мастака фільма — вельмі рэдка альбо ніколі. А між тым, менавіта мастак-пастаноўшчык візуальную закладвае аснову таго, што мусіць стаць фільмам, спектаклем, тэлепраграмай.

Міхал Карпук нарадзіўся ў 1930 годзе на Берасцейшчыне. Ён і дагэтуль памятае, што азначае пачувацца на сваёй зямлі чалавекам другога гатунку. А менавіта так адчуваў сябе беларус у польскай дзяржаве. У верасні 1939 года ў родную вёску Міхала спачатку прыйшлі немцы, потым — саветы. Сялянская сям'я Карпукоў лічылася заможнаю, а па савецка-калгасных стандартах дык і ўвогуле "кулацкаю". З гэтай прычыны, калі новая ўлада пачала "чысціць" памежныя вобласці ад "падазроных элементаў", Карпукі трапілі ў спісы на дэпартацыю. Іх мусілі адправіць, як гаварылі ў той час, "пасвіць белых медзвядзёў". Нават быў вядомы час развітання з радзімаю. 25 чэрвеня 1941 год. Але трыма днямі раней пачалася вайна, якую назвалі Вялікай Айчыннаю... У адносінах да гэтай заходнебеларускай сям'і цалкам спраўдзіўся папулярны ў міжваеннай заходняй Беларусі праклён: "Каб цябе немцы акупавалі, а бальшавікі вызвалілі". Драматызм дзіцячых гадоў паклаў адбітак на ўсё жыццё і, зразумела, творчасць Міхала Андрэевіча, прывучыў філасофскі ўспрымаць усё, што дае лёс, — і добрае, і кепскае.

У 1956 годзе мастак скончыў Мінскую мастацкую вучэльню, а ў 1962 — Маскоўскі паліграфічны інстытут. Праца на тэлебачанні і кіно ці не галоўны змест ягонай творчасці. Зробленае ім у гэтай галіне па праве складае залаты фонд, не страціла эстэтычнай актуальнасці і сёння.

Але не менш плённа працуе мастак і ў галіне станковага выяўленчага мастацтва. Пераважна — у жанры пейзажа. Ён адчувае прыроду як вясковец, але асэнсоўвае яе як месціч, як асоба, багатая досведам сусветнай выяўленчай культуры.

Да 45-ай гадавіны творчай дзейнасці Беларускім саюзам мастакоў выдадзены каталог твораў Міхала Карпука. Сабраныя ў ім творы сведчаць пра вечную прыгажосць беларускай зямлі. І яшчэ — пра яе боль. Гэта датычыць твораў чарнобыльскага цыкла.

Паэт Раман Тармола-Мірскі прысвяціў мастаку радкі:

***Дарога з дрэвамі —***
***нібы вузлы на памяць,***
***Пра наша існаванне на зямлі,***
***Душэўную разварушыла замяць***
***Якую мы заўчасна зьнебылі.***

Хто ведае, можа, прыйдзе час, калі па творах мастакоў кшталту Міхала Карпука мы будзем рэстаўраваць знявечаную бяздумнай індустрыялізацыяй беларускую прыроду. Хто ведае...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Прэзентацыя новай кнігі

Даўняе сяброўства звязвае выдавецтва "Юнацтва" са сталічнай Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкай. Ягоныя аўтары і супрацоўнікі заўсёды з ахвотай бяруць удзел у кніжных святах, якія арганізуе і праводзіць гэта ўстанова. Вось і нядаўна тут адбылося чарговае цікавае мерапрыемства: прэзентацыя кнігі аповесцей-казак Алеся Бадака "Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў". Разам з аўтарам на сустрэчу з чытачамі завітаў і рэдактар выдання пісьменнік Міхась Зарэмба. Вучні і настаўнікі мелі магчымасць не толькі даведацца пра гісторыю напісання твораў, што склалі кнігу, паслухаць новыя вершы віноўніка свята ды паўдзельнічаць у прыдуманых ім літаратурных гульнях, пазнаёміцца з кніжнымі навінкамі і планамі на будучыню выдавецтва "Юнацтва", але і тут жа, у бібліятэцы, набыць "Незвычайнае падарожжа" з аўтографам аўтара.

**Н. К.**

## Узнаўляючы віхурныя падзеі

УЛАДЗІМІРУ ЯКУТАВУ — 75

**Нарадзіўся Уладзімір Дзмітрыевіч 5 лістапада 1926 года ў вёсцы Ранькава цяперашняга Ушацкага раёна. У 1942—1944 гадах ваяваў у партызанскім атрадзе брыгады "Неуловимые", а пасля знаходзіўся ў дзеючай арміі. Паранены, дэмабілізаваўся ў 1945**



**годзе. Працаваў сакратаром Булаўскага сельсавета Полацкага раёна, сакратаром Швенгіонеляйскага валаснога камітэта камсамола, інструктарам, загадчыкам парткабінета райкома партыі (Літва). У 1954 годзе скончыў юрыдычны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Капсукаса. З 1961 года быў адказным сакратаром таварыства "Веды" Ленінскага раёна г. Мінска, намеснікам дырэктара па культрабоце тэхнічнага вучылішча № 53, навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. З сакавіка 1990-га з'яўляўся прэзідэнтам культурна-творчай фірмы "Русь Белая". Мае навуковую ступень кандыдата гістарычных навук.**

**Літаратурную працу У. Якутаў пачаў у 1962 годзе. Піша на рускай і беларускай мовах. Выдаў кнігі "А. Г. Червяков. Страницы биографии", "Н. М. Голодед. Страницы биографии", "Віхурны досвітак", "Всегда с Лениным", Александр Червяков", "Вровень с веком", "Приговор века", у якіх адлюстраваны розныя моманты гісторыі, найперш падзеі, што адбываліся ў гады рэвалюцыі і станаўлення савецкай улады.**

**Віншуем Уладзіміра Дзмітрыевіча з 75-годдзем! Зычым яму моцнага здароўя, новых творчых поспехаў!**

## З кагорты лімаўцаў

ЭРНЕСТУ ЯЛУГІНУ — 65

**Хоць і нарадзіўся Эрнест Васільевіч на станцыі Асінаўка Аршанскага (цяпер у складзе Дубровенскага) раёна, маленства**



**яго прайшло на радзіме бацькоў — у г. Крычаве. У 1954 скончыў сярэднюю школу і стаў літсупрацоўнікам рэдакцыі крычаўскай раённай газеты "Шлях сацыялізма". Працаваў у мсціслаўскай раённай газеце "Калгасная праўда" (1957—1960), у шматтыражцы "За коммунистический труд" у Салігорску. Завочна скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1962). З 1961 года — літсупрацоўнік, загадчык аддзела, адказны сакратар газеты "Знамя юности", з 1966-га — раз'язны карэспандэнт "Сельской газеты". У 1969—1972 гадах Э. Ялугін быў карэспандэнтам "ЛіМа". Пасля звязаў свой лёс з рэдакцыяй часопіса "Нёман": літсупрацоўнік, намеснік галоўнага рэдактара. З 1990 года з'яўляўся галоўным рэдактарам газеты "Наша слова", а пасля таго, як выданне яе было спынена, некаторы час зноў працаваў у "ЛіМе".**

**Першы нарыс апублікаваў у 1955 годзе на старонках газеты "Советская Белоруссия". З першым апавяданнем выступіў у "Знамени юности" ў 1966-ым. Піша на рускай і беларускай мовах. Выйшлі кнігі "Камни Млечного Пути", "Мстиславцев посох", "Сіндбад вяртаецца", "Без эпітафіі", "Только камни", "Соленая планета", "Острова" і др. Аўтар сцэнарыяў дакументальных тэлефільмаў "Мсціслаў: звенні часу", "Без эпітафіі".**

**З 65-годдзем, шаноўны Эрнест Васільевіч! Няхай Вам і надалей гэтаксама хораша жывецца і пішацца!**

## "ЛіМ"-ФОТА

*Ганад Чарказян: "Друга друг не навяжа на ланцуг"*



Фота А. КАЛЯДЫ



ПОШТА

Мікола ЗАХАРАНКА



## Два берагі

*З берага на бераг пераправа...*
*Я ж не навёў дзеля выгоды,*
*каб лацвей хадзіць туды, дзе слава*
*разам з ганьбай водзіць карагоды.*

*Я на Гэтым беразе спакойны,*
*тут лянота нават не загана,*
*а на Тым, другім, вірую войны —*
*там ваююць ганьба і пашана.*

*Гэты бераг зручны ды звычайны,*
*толькі лёс мой пакрывіўся, мабыць.*
*Гэты бераг плодны, жыццядайны,*
*але Той, няплодны бераг, вабіць.*

*Ён высокі, як вяршыня Свету,*
*ён падманны, як міраж пустыні.*
*Да яго па славу я паеду,*
*да яго паеду па святыні.*

*А калі ізноў на бераг Гэты*
*прывядзе зваротная дарога —*
*абнадзеены і абагрэты*
*азірнуся — не прывёз нічога.*

*А калі й здабыты гонар будзе,*
*а калі й мяне уславяць хорам,*
*а калі й мяне уславяць людзі,*
*азірнуся — перад Богам сорам.*

*А калі здабытыя святыні*
*прывязу на шчырае служэнне —*
*праз гадзіну сэрца зноў астыне,*
*ад людзей прыняўшы асуджэнне.*

*Так і езджу з берага на бераг,*
*ані да якога не прыстану...*
*А рака бяжыць кудысь наперад,*
*везучы то ганьбу, то пашану.*

•

*Хатка мая, хатулечка,*
*да бярозкі тулішся.*
*Мамка мая, матулечка,*
*па сыночку журышся.*

*Толькі над тою хаткаю*
*чорны крумкач лятае,*
*толькі над тою мамкаю*
*шызы голуб гукае.*

*Гукае-гугукае*
*з вестачкай у дзюбе,*
*у шыбачку грукае —*
*адчыняй, галубе!*

*Адчыняй, старая,*
*абапрысь кіёчкам.*
*Закружыла зграя*
*над тваім сыночкам.*

*Хто яны такія,*
*можа, і не злыя?*
*Ды яму не здужаць —*
*надта нізка кружаць.*

*А яго галоўка,*
*кажа, не стрывае,*
*кажа, гэтак лоўка*
*кружыць іхна зграя.*

*А яму атруты*
*хочацца напіцца,*
*у цемру праваліцца —*
*ды Бога баіцца.*

*Ён бы адцураўся*
*І жыцця зямнога,*
*смерці б не спужаўся,*
*ды баіцца Бога.*

*Кажа: голуб, браце,*
*ты на крыльцы лёгкі —*
*паляці да маці*
*у мой край далёкі.*

*На цябе, васпане,*
*як на дабрадзея,*
*адно спадзяванне*
*і адна надзея.*

*Скажы ёй: старая,*
*сына кружыць зграя!*
*Няхай прылятае*
*ды паразганяе.*

*— Каб я мела крылы,*
*як ты, голуб мілы,*
*я ж бы паляцела,*
*куды б захацела.*

*Але цягне велькі*
*горб мой да зямелькі —*
*гэты лёс старэчы,*
*што мяне зняверыў.*

*Мае рукі млеюць,*
*мае ногі стынуць,*
*мае вочы плачуць,*
*дарогі не бачаць.*

## Мяжа

*Паміж сухавейных жыццёвых пяскоў*
*горкі палын парос.*
*Сцяжкамі няволі, нібыта ваўкоў,*
*абклаў нас нядобры лёс.*

*Туды не ступі і туды не хадзі,*
*таго не скажы, не спей,*
*мяжы свайго воўчага лёсу, глядзі,*
*пераступіць не смей.*

*Крылатыя мары пра лёс варажыць*
*зніклі за небакрай,*
*і толькі аседлае сэрца дрыжыць,*
*птушкаю рвецца ў рай.*

*І горка на сэрцы, і цесна ў грудзях,*
*і цёмна ў тваёй душы,*
*і, мабыць, ужо не адолее страх*
*той ракавой мяжы.*

*Ды як ні турбуйся і як ні дрыжы*
*па долі такой сваёй —*
*ты ўсё ж дабрыдзеш*
*да смяротнай мяжы*
*і спыніш свой шлях на ёй.*

## Жўравы

*Восень зноў накрыла*
*лісцем паплавы,*
*і плывуць на крылах*
*жўравы.*

*Боль маёй Радзімы —*
*вокліч хаfüggetlen,*
*пакідаюць зімы*
*жўравы.*

*На шляху пабіла*
*клін ваш баявы,*
*дзе чыя магіла,*
*жўравы?*

*Многа іх на свеце,*
*ды ніколі вы*
*крыллаў не складзеце,*
*жўравы.*

*Як народ мой пеўчы,*
*гэтак жа і вы*
*існуеце вечна,*
*жўравы.*

## Восень

ДЫПЦІХ

**1. Верасень**

*Яшчэ нібы ва-ўсю шчыруе лета,*
*гарою пір у лета на стале!*
*Яшчэ паветра сонейкам сагрэта,*
*яшчэ зялёны лес. Але, але...*
*Ужо не так звіняць пад ветрам сосны,*
*грыбная вільгаць тоіцца ў бары,*
*і павуцінне з-пад нябесных кроснаў*
*зляцела, дачакаўшыся пары.*
*Калматы мох стракаціць ад лістоты,*
*густы бярэзнік бачны напрасвет...*
*Асенняй верасьнёвай адзіноты*
*пакінуты у лесе першы след.*

**2. Кастрычнік**

*Кастрычніцкім*
*празрыстым надвячоркам,*
*нібы кляймо агню — кляновы ліст*
*ляціць увышыні, падобна зоркам,*
*якія ноччу падаюць уніз.*
*Сяміканцовы ліст, як сонца жменя,*
*на сходзе дня падоўжвае дзень.*
*На сем канцоў Сусвету сем праменняў*
*нябеснай ночы аддаляюць цень!*
*Але зыход адзін: перамагае*
*асколак дня вячэрняя імгла,*
*і ліст кляновы назаўжды лягае*
*каля свайго кляновага ствала.*

•

*Калі я памру, а ты пажадаеш другога,*
*ў цябе не адбудзецца тое,*
*што мела са мною.*
*Ён будзе пахнуць бензінам,*
*саляркай, тавотам,*
*пасцель твая*
*з ночы прапахне сабакам,*
*сябе самую згідуеш, бо ўспомніш,*
*як пахла цёплаю плоццю цела маё.*
*Зазірні яму ў сэрца. І ўбачыш*
*друзу сіратлівага смецця, якое*
*патыхае карболкай*
*і дустам, і тыфам.*
*Мая душа ля цябе*
*пасля смерці ўзаўецца,*
*і ў подыху лёгкага ветру пачуеш*
*пах палыну, кахання і смерці,*
*і горкага мёду,*
*і горка-горка заплачаш.*

в. Швабы, Лагойскі раён

•

Перад чыстым аркушам паперы — як перад аўдыторыяй. Калі закарціць выказацца, прадстаю перад аркушам і... губляюся. Блытаюцца думкі, якія зусім нядаўна здаваліся гэткімі дакладнымі, яснымі і ўпарадкаванымі. Нібыта на мяне глядзяць сотні вачэй, чакаюць, што скажу, а я ад хвалявання забыўся вызубраны тэкст.Як бывала некалі ў школе. Ажно ў горле перасохла...

•

Прысніцца ж такое: нібыта я кажу аднаму жывому класіку: маўляў, што ж гэта робіцца, яго — мысліцеля, філосафа і проста разумнага і добрага чалавека, які творамі паказваў людзям арыенціры ў жыцці, — сучасныя разумнікі чытаюць проста так, дзеля моды, нібы збіраюць маркі альбо этыкеткі. А той класік мне і адказвае (горка так усміхаючыся): дзякаваць Богу, што хоць так чытаюць. І ўсё гладзіць і супакойвае мяне: хоць гэтак хай чытаюць, дзетачка, хай чытаюць... І я падумаў у сне, што, мабыць, яны, гэтыя калекцыянеры-чытачы, — апошняя надзея генія.

сачыняю. Гэта я знарок, каб спытаць, ці варта мне вось такім сачыніцельствам займацца". Мне спадабалася ўсё, што ён так захоплена жывапісаў, і я сказаў пра гэта. А ён на развітанне расказаў яшчэ пра аднаго свайго каларытнага земляка, у якога пальцы былі такія тоўстыя, што капейкі імі са стала падбіраць ніяк не мог, не існавала і рукавіц альбо пальчатак, якія б на яго руку налезлі. Звычайна калі ён зімою, у мароз, ехаў на возе, то, каб пагрэць рукі, паб'е-паб'е свае палепні-пальцы аб аглоблю — і парадак.

•

У канторы, што гандлюе падшыпнікамі, селянін пытае:

— Ці ёсць у вас падшыпнік да воза. Ну, той, што ў буксу.

— Вы нумар скажыце.

— Які нумар?

— Ну, які іменна падшыпнік патрэбен.

— А вось які: тры пальцы не ўлазяць, а два заслабка.

Пасмяяліся хлопцы з дзеда, але падшыпнік знайшлі. Нумар яго — 7606. Дзед ім слоік мёду пасля прывёз.

выказацца. І выказваўся 65 гадоў...

•

З таго, што я мог бы зрабіць, зрабіў толькі тое, чаго не мог не зрабіць.

•

Ні з таго, ні з сяго рванулі з Андрэем Мазько ў Белаазёрск да шаноўнай Ніны Мацяш. Так хораша пра ўсё пагаварылі. Яна расказала пра святога айца, у якога спавядалася. Ён запатрабаваў, каб па-руску. Між тым, спавядацца, калі ўжо на тое, не яна, а ў яе павінны.

•

Адзін пісьменнік-мысляр напісаў твор, у якім спачатку жывапісна, ярка вымалеваў асалоду ад п'янства і распусты (маўляў, прыцягну, заінтрыгую, падчаплю, як рыбіну на нажыўку, чытача), а пасля, у другой частцы, паказаў гэтак жа маляўніча, якая яна падманлівая, тая асалода, і пагібельная.

Чытач першую частку прачытаў залпам. Другую пачаў і адкінуў кнігу са словамі:

— А далей — не цікава. Мусіць, у пісцеля фантазія кончылася.

Анатоль КРЭЙДЗІЧ

# Параненыя мары

•

***Бульба нам — не толькі***
***сала з хлебам,***
***Бульба — гэта наш сялянскі бог.***

Гэтыя радкі іванаўскага паэта Андрэя Мазько навялі на думку, што бульба для беларуса сапраўды нешта куды большае, чым проста ежа. Да каго б са сваякоў ні заехаў, першыя пытанні: а ці ж садзіце вы бульбу, і калі садзіце, дык ці шмат і. ці ўрадзіла? І чым больш у цябе пасаджана бульбы ды чым лепей яна ўрадзіла, тым большая да цябе пашана.

•

На адной са сваіх лекцый гэтая разумная і не па гадах маладжавая жанчына расказвала пра тое, што шкодна стрымліваць сябе, калі хочацца, выбачайце, па-вялікаму. Маўляў, таксіны з калу ўсмоктваюцца ў кроў, ну, і гэтак далей. Усё правільна яна казала. Аднак пасля таго выступлення калі б ні згледзеў яе, кожнага разу прыходзіць на памяць менавіта гэты эпізод. І ўнутраны голас гарэзліва насміхаецца: глядзі, пайшла тая, што не носіць у сабе, а адразу ж, як прыпячэ, апаражняецца. У нас у вёсцы пра тое ж самае казалі неяк прасцей, па-свойску: "Есці не с...ць, можна і пачакаць".

•

Самы вольны той чалавек, які не заўважае сваёй няволі. Бо ўсё роўна ж: "нельга жыць у грамадстве і быць вольным ад яго".

•

Калі нічога не робіш, проста сядзіш бяздумна і без справы, то час запавольваецца, расцягваецца. Аднак расцягваецца толькі "спераду", а "ззаду", наадварот, сціскаецца, як адпушчаная пасля расцягвання гума. Яшчэ і лупцане, чаго добрага, па мяккім месцы. І наадварот: калі захоплена працуеш, то ўжо карацее час "спераду", затое "ззаду" ўсё зробленае ніяк не ўмяшчаецца ў кароценькім імгненні, і яно расцягваецца. І чым больш за гэтае — умоўнае — імгненне ты зрабіў, тым яно даўжэйшае.

•

Вясковая хата. На адной сцяне — у рамцы — карціна, на якой выступае Ленін, а на процілеглай — якраз насупраць — выява Хрыста. Пасярэдзіне ж, на лаве, знябожаная сялянка, якая і да атэізму не "дайшла", і існую веру ў Бога згубіла недзе на калдобінах жыцця.

•

Анатоль Бурак — выдатны мастак з вёскі Дастоева і намеснік дырэктара тамтэйшай школы. Некалі прасіў у яго, каб намаляваў карціну, і во прывёз. Стагі ў тумане, а ў вышыні цьмяны месячык. Ударылі па руках. Сядзім, п'ём піва. Ён заплюшчвае вочы, і пачынае словамі маляваць ваколіцы Дастоева — расказвае, нібы кнігу чытае. Складна. Па-беларуску. Пытаюся: "Як вы ўсё помніце". А ён: "Гэта ж я во зараз якраз

•

Пачуў у вёсцы:

— Была б у цябе жонка, то і яна трымалася б за цябе, а ты б за яе — як п'яны за паркан.

•

Не раскрываюся цалкам нават перад самім сабою, не тое што перад іншымі. Здаецца, як толькі раскрыю нейкую таямніцу ў сабе, то ўжо стану нецікавы ні сабе, ні іншым. Папросту, перастану быць, рассыплюся. Як бы гэтая таямніца — адмысловы магніт, да якога прыцягнута ўсё астатняе маё — і вонкавае, і ўнутранае.

•

У Вялікую Айчынную вайну на Палессі здарыўся такі выпадак.

Немцы западозрылі ў нападзе на паліцэйскі ўчастак маладога вясковага музыку і змусілі яго на вачах ва ўсіх вяскоўцаў капаць сабе яму. Чалавек — звалі яго Піліпам — выкапаў тую магілу і стаў, як яму загадалі, на самым яе ўскрайку. Адно папрасіў у афіцэра пайграць перад смерцю на гармоніку. Інструмент быў прынесены, і ён зайграў. Ён быў добрым гарманістам, а тут і ўвогуле так зайграў, што ўсе знерухомелі. Немцы, паланёныя музычным талентам хлопца, падаравалі яму жыццё.

Да гэтага часу блукае Піліп у самаробным цыратавым плашчы па навакольных вёсках, іграе на вяселлях (ды як хораша), патрабуючы за гэта толькі начлег ды пачастунак.

•

Пра чарку кажуць гэтак:

— Першая — колам, другая — саколам, а трэцяя — як паляціць!..

•

Я — цень. Але не той, што адбіваецца ад чалавека, а той ад якога адбіваецца чалавек.

•

З усіх бакоў толькі і чую: чарнобыль, чарнобыль, чарнобыль...

Павінен бы адчуваць небяспеку. Але па-сапраўднаму адчуў яе толькі пасля таго, як мая пяцігадовая дачушка, убачыўшы звычайную пластмасавую лялька з адкручанымі рукамі і нагамі, па-дзіцячы эмацыянальна прашчабятала: "Тата, тата, глядзі — чарнобыльская лялька".

•

Эвалюцыя вёскі.

Учора: выткаць ручнік — што песню стварыць.

Сёння: ні ручніка, ні песні... Глядзіць "Паветраныя замкі".

Заўтра: "Буду валютнай прастытуткай..."

•

Агонь грызе палена доўгімі жоўтымі зубамі. Як стары бабёр.

•

У 35 гадоў ён моцна захварэў і сабраўся паміраць. І перад смерцю гэтак закарцела

•

Жылі-былі дзве сястры. Адна дзецьмі ледзь не штогод выстрэльвала, а другая ніяк не магла нарадзіць. Калі ў першай сястры зноў намаўлятка паявілася, аддала яго бяздзетнай сваячцы.

Мінуў час. Хлопчык падрос. Неяк цётка, г. зн. сапраўдная маці, перасадзіла яго цераз плот. Ён тады падбег да маці прыёмнай і сказаў:

— Мама, як лёгка мяне цётка перасадзіла.

•

Еду за рулём аўтамабіля. Даганяю легкавік. У заднім акне — тварык хлопчыка. Цікаўны такі. Мне раптам гэтак закарцела тым хлопчыкам стаць.

•

Мікола Чарняк, любяшоўскі журналіст і паэт, перадаў іванаўскім калегам першы свой зборнік паэзіі "Малажай".

Іванаўскі паэт Уладзімір Гетманчук надта ж упадабаў кнігу. Неяк завітаў ён на гарадскі рынак, дзе шмат любяшоўцаў гандлюе, дый просіць перадаць Чарняку шчырае дзякуй і нізкі паклон. А тыя:

— Ты што-небудзь больш істотнае перадаў бы. Якую каўбасіну.

Гетманчук схадзіў у краму, на ўсе грошы накупляў каўбасы і перадаў Чарняку.

— Во, гэта ўдзячнасць! — смяяліся ўкраінцы.

•

Пачуццё страху невядома хіба што немаўляці. Яно смела вылузваецца з калыскі і ... падае на падлогу. Плача, бо адчувае боль. Але не разумее, адкуль гэты боль узяўся.

Што атрымаецца, калі перанесці гэтую асацыяцыю на чалавека, чалавецтва?

•

Садовая яблыня:

— Мае яблыкі салодкія і смачныя. Значыць, я патрэбная людзям. Не тое што нейкая там дзічка.

Дзічка:

— Але ж мае карані поясць твае плады сокам. Ты ўсяго толькі прышчэплена да мяне.

•

Абыходзь упэўненых — яны недалёкія. Цягніся да тых, хто сумняваецца — яны шукаюць.

•

Як хораша сказаў у свой час Кузьма Чорны: "Чалавек — гэта цэлы сусвет".

Праўда, часам як наглядзішся на гэтыя "сусветы", дык аж страх бярэ: набор комплексаў — не болей.

•

Здаецца, яна нават калі дорыць нешта некаму, дык не дзеля тых, каму дорыць, а дзеля сябе: маўляў, во, гэта ж я, я, я...

•

Толькі тое і робім: то прыспешваем час, то імкнёмся супыніць яго.

•

Пахвала для творцы, што старцер для машыны: заводзіць.

•

Калоў дровы на самым тоўстым цурбаку. А як пакалоў, то хапіўся і за яго. Ды раптам адумаўся: гэта ж мой памагаты. І апусціў сякеру.

•

Матылёк — граніца, мяжа, рыса, падзел. Ён падзяляе людзей на летуценнікаў і рэалістаў.

Летуценнікі — тыя, хто называе матылька лятучаю кветачкай, харавством, дзівам.

Для рэалістаў ён — вораг, які ў абліччы вусеня знішчае капусту.

Пакуль летуценнік захапляецца матыльком, рэаліст кропіць грады.

Летуценнік заўсёды галодны, але не перастае радавацца жыццю. Рэаліст, наадварот, сыты, але заўсёды чым-небудзь незадаволены, яму ўсё мала капусты, а калі ў суседа большая вырасла...

•

Гэтую адметную сямейку часта бачу на вуліцах райцэнтра: муж і жонка неахайна апранутыя, раскудлачаныя, ён амаль заўсёды нападпітку. З імі трое малалетак у лахманах, мурзатыя, толькі вочы блішчаць. Бамжы, дый годзе. Шкада іх.

Ды неяк згледзеў іх у прадуктовым магазіне. Гляджу, набіраюць нейкіх жвачак, замежных цукерачак з кансервантамі, іншага салодкага паскудства. От жа, трапілі ў рукі грошы, дык замест таго, каб накарміць дзяцей паўнацэнным абедам, накуплялі ім дарагой атруты. Абы ў бліскучых абгортачках.

Ну, як іх шкадаваць пасля гэтага?

Помніцца, прыехаў у райцэнтр праведаць старога бацьку сябар, з якім разам вучыліся. Прыехаў з малым. А сам чалавек заможны. Дык ніводнай цукеркі ў магазіне не купіў. Узяў фаршу, курыную тушку, мукі, яек. Кажа: малога пакармлю катлетамі, дыетычным мясам і варэнікамі. Якраз было лета, і ён вырашыў схадзіць у прыгарадны лясок ды назбіраць для варэнікаў жменьку-другую свежых чарніц.

Часам бедным не пашкодзіла б браць прыклад з багатых.

•

Па абочыне клыпаюць карова і сялянка. Паміж імі — вяроўка. Хто каго вядзе? Здаецца, парвецца яна, і спадарожнікі пагубляюць адно аднаго. Карова сама сабе забрыдзе невядома куды, жанчына — таксама заблудзіцца. Ім ніяк нельга паасобку.

•

Горка пацямнелага снегу на чорнай зямлі плавілася гэтак хутка, нібы грудка тлушчу на гарачай патэльні.

Хутка грудачка ператварылася ў лужыну. А ў яе ўпаў жаўток — чырвонае веснавое сонца.

•

Сустрэліся два былыя выпівохі.

— Ну, як ты, што робіш?

— Ды машыны з Германіі ганяю і прадаю. А ты дзе?

— Ды нідзе. П'ю. А бізнес у цябе, відаць, нармалёвы, вунь як раздабрэў.

— Нармалёвы. Во, прыгнаў тачку, дык выручыў за яе 2 тысячы "зялёных".

— То хадзем хіба замочым — і заробак, і сустрэчу.

— Я не супраць. Але ж грошай няма.

— Як няма? А два "кускі"?

— Гэтыя не ў лік. Толькі для справы, а на расходы і няма. Хіба пад'еду да маці — пазычу.

•

Жанчына расказвае пра першае ў яе жыцці спатканне з хлопцам у глухой палескай вёсачцы:

— Сядзім на лаўцы, маўчым. Прайшла адна гадзіна, другая. Яму пад ногі падлез нейкі прыблудны кот і мяўкае, мяўкае. Кавалер мой хапае яго за каршэнь ды шпурляе за плот, у гародчык, у густы гарбузоўнік. Кот разарваў цішыню пранізлівым крыкам. І зноў цішыня, чутно, як шамаціць у траве жучок. Усталі. Хлопец моўчкі дахаты правёў мяне, сталі ў двары каля хлява. Зноў цішыня. І тут у хляве: ляп, ляп... Карова ляпае.

•

Адна цётка неяк пабіла свайго зяця кіем за тое, што той здраджваў жонцы (яе дачцэ). Зараз яны жывуць душа ў душу, усе трое. Але вяскоўцы, бывае, не-не дый успамінаюць пра той выпадак. Маўляў, Маня, а ці не пазычыш свайго памагнога (лекавага, значыць) кіёчка, бо нешта і мой прыхварэў?

*(Заканчэнне на стар. 14 — 15)*

пытанне: а ці варта гэтак строга ставіцца да першай і адзінай драматычнай спробы маладога аўтара, тым болей, што яна, гэтая "спроба", зроблена яшчэ ў пачатку далёкага XX стагоддзя і нават не задумвалася для ўвасаблення на сцэне? На пытанне адказвае сам Смоліч у лісце да Браніслава Тарашкевіча, датаваным 12.05.1914 года: "(...) Пішыш — драма ёсьць і ёсьць яшчэ — праўдзівасьць. О, каб гэтульки было! — То для мяне ды і не толькі для мяне гэтага было б годзі і годзі. (...) Што мяне больш непакоіць — гэта няспрытнасьць, як пішаш, 4 акту. Непакоіць — дзеля таго, што гэта нэрв п'есы і бадай ці ні ў яго ўлажыў я найбольш душы. (...) Ну але спадзяюся, ты мне яшчэ напішыш — як вальнейшым часам — і пашырней. І перад усім — шчырасьць: што думаш, тое і кажы, бо трэба мне нарэшце ведаць, хто я — пісар ці пісьменнік".

Аркадзь Смоліч меў несумненны патэнцыял сапраўднага пісьменніка. І хто цяпер скажа, творы якой ступені мастацкасці маглі б выйсці з-пад яго пяра, калі б не адбылася ў гады сталення заканамерная пераацэнка жыццёвых вартасцей, калі б не адбіралі столькі хуткацечнага часу любімая навука, палітыка, педагогіка...

Перыяд актыўнага захаплення Смолічам "высокай" літаратурай быў хаця і не доўгім, аднак вызначальным для выпрацоўкі ім уласнага стылю. Сведчаннем служыць навукова-асветная "Геаграфія Беларусі", якой зачытваліся многія і многія тысячы беларусаў, не абыякавых да лёсу зямлі сваіх бацькоў.

Бадай ці не ўсе даследчыкі Смолічавай спадчыны пераканаўча сведчаць, што, акрамя высокай навуковай каштоўнасці, "Геаграфія Беларусі" мае і каштоўнасць эстэтычную. "Кніга Смоліча, асабліва калі глядзець на яе з аддалі часу, нешта значна большае, чым падручнік. Гэта натхнёны, арыгінальны твор: навуковая праца і літаратурна-вартасны яе эквівалент адначасна. Заадно і грунтоўны курс радзімазнаўства" (А. Ліс). "Яго "Геаграфія..." узбагачае духоўна, маральна. Чытаеш яе, і спантанна, без усялякага падробнага фальшу поўніцца сэрца любоўю да Айчыны, да роднай беларускай зямлі, а найбольш — да яе самабытнага, працавітага, таленавітага народа..." (А. Мяснікоў). Ацэнка сапраўды заслужаная і справядлівая. А нам падумалася: наўрад ці займела б "Геаграфія Беларусі" такія свае адметныя якасці, калі б ёй не папярэднічала двухгадовая ўпартая праца над п'есай "Хай прыдзе згода!", калі б не грунтоўнае, аж да чытання публічных лекцый, вывучэнне Смолічам гісторыі беларускай літаратуры, калі б, урэшце, не яго пісьменніцкі талент, пра наяўнасць якога Аркадзь Антонавіч, вядома ж, падазраваў, але ўсур'ёз які, на жаль, так і не ўспрыняў...

...Дарэчы, п'еса Аркадзя Смоліча ўрэшце знайшла свайго рэжысёра. Ім стаў няўрымслівы і вечна малады Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Прэм'ера спектакля мае адбыцца на сцэне Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу напярэдадні юбілею слыннага земляка. Народны тэатр-студыя "Валянцін" шчыра запрашае сваіх гледачоў на прэм'еру.

**Сяргей УКРАІНКА**

ўжо ім жытло вымуроўваюць... А тут сядзіш адзін, як воўк, а ў гэты час сям'і, можа, якраз тваёй прысутнасці не хапае. А ці атрымаецца што з маёй пісаніны? У наймудрэйшага Янкі Брыля знайшоў адно "Вячэрняе" прызнанне: "Чытаючы рукапіс Калюгавых "Пустадомкаў", дзе пра пачынаючага паэта, успомніў, як я ў раннім юнацтве — і неаднойчы — даходзіў да адчування, што калі не стану пісьменнікам, дык мне наогул няма ў жыцці — страшэннае няма! — анічога..." Трэба ж, нават сам Янка Брыль сумняваўся.

●

— Бабуля, у мяне баліць галава, — хныча малая.

— А, дзіцятка маё, — шкадуе ўнучачку бабуля, пакутліва моршчыцца, ледзь стрымліваецца, каб не застагнаць. Бабуля ўжо не ведае, дзе ў яе не баліць. — А, дзіцятка маё, хадзі я цябе пашкадую.

●

Ён вельмі хацеў праславіцца. І праславіўся. Тым, што вельмі хацеў праславіцца.

●

Добра косіцца ў шэсць гадзін раніцы. За хатаю ў цешчы трава — сцяной. Непадалёку, за яблынямі, жонка клубніцы праполвае. Знайшла адну — першую — спелую. Паклала на мяжу — дзецям.

За сцяною ў хаце сапуць два сонейкі — Каця ды Насця. Калі спыняюся — невядома якім чуццём лаўлю праз сцяну іх сцішанае мірнае сапенне. Яго немагчыма пачуць. А я чую, нават замілавана ўслухоўваюся.

Аднак жа і камарэча! Лезе ў ноздры, вушы. Ганю касою маленькую жабку: ш-ш-шых — скок, ш-ш-шых — скок. Скачы ўжо, малая, а я пастаю, паслухаю, як пасапваюць там мае.

Ля вуха дзвынькнула, як брусок аб касу, пчала. Зараз прайду яшчэ адзін пракос і пайду за стол. Дзіўна ўсё ж усе лічаць, што я папрацаваў і іду пасядзець за стол, каб спачыць, а на самай справе я адпачыў і збіраюся пайсці папрацаваць.

Быў і смешны эпізод, звязаны з маім сядзеннем-пісаннем. Цешча неяк сказала жонцы:

— Ну і што, што піша, але ж не п'е.

ПАМЯЦЬ

# "Сцежкай прайдуся, бы памалюся..."

## ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІКОЛЫ ЯНЧАНКІ

Так склаўся лёс, што Мікола Янчанка амаль усё свядомае жыццё пражыў на Гомельшчыне, хоць і нарадзіўся непадалёку ад Магілёва. Рыхтуючы першы выпуск літаратурна-мастацкага альманаха "Магістраль", я папрасіў Мікалая Ігнатавіча даслаць падборку вершаў і невялічкую аўтабіяграфію, а калі ёсць жаданне, то і разгорнутую нататку пра сваю творчасць. Атрымаў бандэроль хутка. У ёй было шмат вершаў, акуратна перадрукаваных на машынцы, і ўсяго некалькі слоў пра сябе — як, прынамсі, і чакаў, бо ведаў, што М. Янчанка чалавек надзвычай сціплы. Нават не пералічыў выдадзеныя кнігі. Ці палічыў гэта залішнім, ці то паспадзяваўся, што я ведаю і калі будзе вострая ў тым патрэба, то дапішу сам.

А напісаў вось што: "Нарадзіўся я 22 чэрвеня 1931 года ў вёсцы Забалацце Магілёўскага раёна ў сям'і сельскага каваля. Вучыўся ў Забалацкай пачатковай, Дасовіцкай сямігадовай і Цішоўскай сярэдняй школах. У 1952 годзе паступіў на гістарычны факультэт Магілёўскага педінстытута, які закончыў у 1956 годзе.

Затым працаваў у Брожскай сярэдняй школе, Гарадзецкай школе-інтэрнаце, Дварэцкай сярэдняй школе. Многа год аддаў рабоце ў раённых газетах "Камунар" (Рагачоў), "За камунізм" (Калінкавічы), "Зара над Сожам" (Карма), "Камуніст" (Жлобін). Аўтар дзевяці кніжак вершаў, апавяданняў і перакладаў.

З 1991 года на заслужаным адпачынку, жыву і працую ў вёсцы Ёлкі-Прыстой. У апошні час пішу ў асноўным на сельскія тэмы. Найбольш значным лічу цыкл вершаў "Свеце мой белы".

Мы так і надрукавалі ягонае слова пра сябе. Палічылі што гэтага дастаткова, бо што за паэта павінны гаварыць у першую чаргу вершы. І вершы "сказалі" гучна, на поўны голас, яшчэ раз пацвердзілі, што М. Янчанка ў добрай творчай форме. То былі творы з цыкла "Свеце мой белы", на які і сам паэт ускладваў надзеі. Яны гучалі меладычна, лёгка западалі ў душу, ліліся нязмушаным раўчуком творчай асалоды... "Садзе мой, садзе, майскі мой садзе, гляну — і ўспыхне шчасце ў паглядзе. Сцежкай прайдуся, бы памалюся, радасцю светлай тут прычашчуся". Альбо: "Ён мае сэрца цеша, яго ўспамінаю штодзень, пяшчотна заву Ячмеша, з павагай заву Ячмень".

А заканчвалася падборка вершаў Міколы Янчанкі ў тым першым выданні альманаха наступнымі радкамі:

***Бярозы сёння, быццам напаказ —***
***Бялюткія сукенкі і карункі.***
***І радасна, і боязна ад думкі:***
***Жыву я ў першы і апошні раз***

Мікола Янчанка жыў, на першы погляд, ціха, непрыкметна. Працаваў у газеце, не выпускаў з рук радкамер, бо ў асноўным сакратарыў у рэдакцыі, зрэдчас выказваў свае думкі-заўвагі-пажаданні пачынаючым аўтарам. Стараўся пазбягаць, як цяпер кажуць, розных імпрэз. І толькі публікацыі ў рэспубліканскіх выданнях напаміналі, што па-ранейшаму творыць у Рагачове (з 1972 года яго лёс звязаны быў толькі з гэтым горадам) паэт і аўтар цікавых апавяданняў для дзяцей. У Рагачове ён пакінуў пра сябе добрую памяць, таму загадчыца дзіцячай бібліятэкі і завадатар літаратурнага аб'яднання "Натхненне" Н. Падгурская хадайнічае, каб бібліятэцы было нададзена імя паэта-земляка. Будзем спадзявацца: так і стане! А літаратурнае аб'яднанне тут бадай што лепшае ў вобласці. Мікалай Ігнатавіч для многіх быў хросным бацькам у літаратуры.

Пашанцавала і мне. У сярэдзіне 60-х гадоў я, вучань Ільічоўскай СШ, дасылаў у райгазету не толькі інфармацыі пра школьныя справы, але і апавяданні, вершы. Тое-сёе прадзіралася на яе старонкі дзякуючы падтрымцы М. Янчанкі. Тады ж мы ўпершыню і сустрэліся. Высокі, прыгожы. Такім застаўся ён у маёй памяці. Дарэчы, калі пасля школы я адразу ж пайшоў у раённыя газетчыкі, а Мікалай Дубавец, які на той час загадваў сектарам друку ў абкаме партыі, накіраваў мяне ў Карму, дзе газета толькі-толькі стваралася, я быў прыемна здзіўлены: на пасаду адказнага сакратара прызначылі майго настаўніка Мікалая Ігнатавіча. Адну ноч мы нават пераначавалі разам у добрых людзей, што жылі па-суседску з рэдакцыяй. Назаўтра М. Янчанка папрасіў прабачэння ў калектыву рэдакцыі і вярнуўся, здаецца, у Жлобін... Папрацаваць разам не атрымалася. Хаця ж — чаму? Пазней мяне выбралі сакратаром абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, і М. Янчанка, хоць сам прыехаць не змог, даслаў "голас" у маю падтрымку. Аднойчы ўдзельнічалі разам у літаратурным свяце "Пачуццё сям'і адзінай" у Чарнігаве, і Мікалай Ігнатавіч пакарыў тады сяброў-украінцаў сваімі гумарыстычнымі вершамі. Бываў і ў яго дома на вуліцы Сцяпанава ў Рагачове.

Пра асабістае жыццё паэта ведаў мала, бо ён быў чалавекам не асабліва кампанейскім, не піў, як гавораць, і не курыў. А вось чаму паехаў у той студзеньскі дзень 1967 года з Кармы — здагадваўся: адчуў, відаць, што ў гэты драўляны, занесены снегам гарпасёлак не пажадае перабірацца жонка, з якой у яго і дагэтуль былі не надта спрыяльныя адносіны. Хоць вяртанне сям'і ад распаду і не ўратавала. Мікалай Ігнатавіч вымушаны быў пабрацца шлюбам другі раз і жыў, здаецца, добра.

Ужо год, як няма яго з намі. Спярша не стала Івана Сяркова, потым Уладзіміра Верамейчыка. Трэцім стаў побач з імі М. Янчанка.

Згадваючы сёння Мікалая Ігнатавіча, згадваю і выдадзеныя ім кніжкі, "Разнотравье" (адзіная кніжка дарослых вершаў, напісаная і выдадзеная на рускай мове), "Кросны", "Жыта-жыцейка", зборнікі апавяданняў для дзяцей "З людзьмі добра", "Зраблю сонейка", "Жменька жалудоў", "Лета ў серванце", зборнік вершаў "Залаты вулей". На беларускую мову пераклаў кніжку вершаў Дзмітрыя Кавалёва "Зялёная Ветка".

Пахаваны Мікалай Ігнатавіч у вёсцы Забалацце — толькі не ў той, што каля Магілёва, а паблізу ад Рагачова. Прытуліла яго на вечны спачын вёска з такой жа назвай, у якой і нарадзіўся. У гэтым ёсць, здаецца мне, нейкі глыбокі ўнутраны сэнс. Хоць, пагадзіцеся, для паэта ўвогуле чужых вёсак няма — у кожнай, дзе хоць аднойчы хтосьці прачытаў ягоны верш, ён свой чалавек...

**Васіль ТКАЧОЎ**

ДРУК

# Беларускай мовай цікавяцца ў Венгрыі

у мінулым годзе выйшаў чарговы, XVIII том з серыі "Studia Russica", што выдаецца кафедрай усходнеславянскай і балтыйскай філалогіі (да 1995 г. — кафедра рускай філалогіі) факультэта гуманітарных навук Будапешцкага універсітэта імя Лоранда Этвеша. Гэта ўжо трэці том, дзе публікуюцца работы па беларусістыцы. Упершыню беларуская тэматыка асвятлялася ў XVI томе серыі (1997 г.). Вялікая заслуга ва ўзнікненні цікавасці ў Венгрыі да беларускай мовы, яе гісторыі, праблем узаемадзеяння з іншымі мовамі належыць загадчыку названай вышэй кафедры Андрашу Золтану і яго калегам. Як можна прасачыць па публікацыях, беларускі матэрыял А.Золтан спачатку выкарыстоўваў у даследаваннях як дапаможны. У апошні ж час старабеларускае пісьменства становіцца важным аб'ектам навуковых інтарэсаў даследчыка. Так, напрыклад, публікацыя навукоўца ў названым зборніку прысвячаецца параўнанню існуючых выданняў тэксту гісторыі пра Атылу. (Zoltan Andras. "К изучению старобелорусской Истории о Атыли"). У артыкуле паказваецца рад лінгвістычна значных адступленняў (пропускі слоў, фраз, цэлых радкоў) у старабеларускіх тэкстах аповесці ў параўнанні з польскім перакладам Ц.Базыліка (1574 г.) і лацінамоўным арыгіналам твора венгерскага гуманіста М.Олаха. А.Золтан прыходзіць да высновы, што існуючыя выданні старабеларускага помніка не адпавядаюць навуковым патрабаванням, таму неабходнае новае выданне, якое варта ажыццявіць з улікам тэкстаў арыгінала і прамежкавага польскага перакладу.

Параўнальны аналіз беларускіх і венгерскіх фразеалагізмаў прыцягнуў увагу Б.Татар (Bela Tatar. "Сравнительно-сопоставительный анализ белорусских и венгерских фразеологизмов (с компонентом 'вода' — 'viz')." Улічваючы — хоць і сціплы — рост колькасці студэнтаў Будапешцкага універсітэта імя Л.Этвеша, якія займаюцца беларускай мовай, гэтай публікацыяй маецца на мэце абудзіць цікавасць да праблем двухмоўнай фразеалогіі і да стварэння беларуска-венгерскага фразеалагічнага слоўніка.

Большая частка са змешчаных у XVIII томе "Studia Russica" матэрыялаў (54 з 73) — гэта даклады Міжнароднай канферэнцыі "Мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім і краінах Усходняй Еўропы: міграцыя слоў, выразаў і ідэй", якая адбывалася ў Будапешце 5—7 красавіка 2000 г. Цікавай ілюстрацыяй міграцыі ідэй з'яўляецца артыкул Т.А.Апарынай "Звучание слова "Русия" при переводах с "простой мовы" в Московском государстве первой половины XVII века". У ім паказана, як тэксты, створаныя ў ВКЛ (у прыватнасці, пераклад са старабеларускай мовы "Кнігі аб веры", апублікаваны ў Маскве ў 1648 г.) і закліканыя даказаць неабходнасць незалежнасці беларуска-ўкраінскага этнасу, "вовлекались в построение и московской национальной идеи" (с. 195).

Вядома, не толькі ідэі, што ўзнікалі ў адным этнічным асяроддзі, выкарыстоўваліся іншымі народамі. У гісторыі ёсць прыклады, калі значную ролю ў лёсе пэўнага народа адыгрываў іншаэтнічны манарх. Аб безумоўнай папулярнасці ў беларусаў Стэфана Баторыя (Сцяпана Батуры), каралём якіх ён быў больш за 10 гадоў, піша ў артыкуле "Стефан Баторий в народной культуре белорусов" А.Катлярчук. У цэлым станоўчы вобраз манарха-венгра захаваўся ў беларускім фальклоры, аб яго кіраванні напамінаюць нашым сучаснікам і шматлікія беларускія тапонімы. Расійскі навуковец падкрэслівае, што яго публікацыя — гэта толькі першыя вынікі вывучэння тэмы і таму прапануе ўсім зацікаўленым асобам і навуковым установам Венгрыі супрацоўніцтва ў арганізацыі этнаграфічнай экспедыцыі па мясцінах полацкага паходу Стэфана Баторыя з мэтай запісу новых матэрыялаў, звязаных з імем караля.

Пры наяўнасці ў зборніку артыкулаў з галіны гісторыі, літаратуразнаўства, этнаграфіі пераважаюць лінгвістычныя матэрыялы разнастайнай тэматыкі.

Праблему неаднароднай структуры літаратурнай мовы ВКЛ закранае В.Мякішаў (W. Miakiszew. "Мовы" Великого княжества Литовского в единстве своих противоположностей"). Фармулюючы падставы для супрацьпастаўлення дзвюх саманазваў "руская мова" (РМ) і "простая мова" (ПМ), даследчык выказвае меркаванне, што "определение РМ появилось, чтобы противопоставить *Властный* язык иным возможным в ведении канцелярского делопроизводства — прежде всего польского и латыни. Понятие же ПМ подчёркивает оппозицию к языку церковнославянскому" (с. 170).

Тэма беларуска-польскага лексічнага ўзаемаўплыву раскрываецца ў артыкулах такіх польскіх даследчыкаў, як Абрамовіч Зоф'я ("Nazwy osobowe Bialostocczyzny XV—XVII w. jako odbicie kontaktow jezykowych I kulturowych w Wielkim Ksiestwie Litewskim"), Астроўскі Багуміл ("Wplyw polszczyzny na bialoruskie gwary okolic Grodna"), Пастусяк Казімера ("Nazwy grzybow na polsko-bialoruskim pograniczu jezykowym") і інш.

У зборніку змешчаны матэрыялы дзевяці беларускіх мовазнаўцаў. Тэматыка іх дакладаў даволі разнастайная. Пытанне паходжання слова цымборыкі і яго пранікнення ў беларускую мову ўзнімае Г.Цыхун. (Генадзь Цыхун. "Пра зборыкі-цымборыкі і шляхі міграцыі цэнтральнаеўрапейскіх слоў на Беларусь"). Высвятляючы адносіны названага слова да іншых фармальна блізкіх у цэнтральнаеўрапейскім арэале, даследчык прыходзіць да высновы, што беларускае цымборык 'ласкавая назва дзіцяці' і другі кампанент спалучэння *зборыкі-цымборыкі* звязана з венгерскім cimbora 'таварыш', што ўзыходзіць да праславянскага *sebrъ. Венгерская інавацыя, мяркуе Г.Цыхун, хутчэй за ўсё "была занесена ў Беларусь гандлярамі і канаваламі з Аўстра-Венгрыі, якія... былі пераважна славакамі" (с.47).

Лёс у беларускай мове такіх слоў, як абежнік 'цыркуляр', кніжніца 'бібліятэка', слухальня 'аўдыторыя' і інш., якія ў айчынным мовазнаўстве з-за адсутнасці адзнак іншамоўнасці часцей за ўсё кваліфікуюцца як уласныя утварэнні, прасочвае С.Запрудскі (Сяргей Запрудскі. "Да гісторыі некаторых вандроўных запазычанняў-калек у беларускай мове"). Грунтоўны аналіз паходжання падобных слоў дазваляе аўтару даследавання кваліфікаваць іх як так званыя вандроўныя калькі, г.зн. словы, "якія, быўшы ўтворанымі ў якой-н. мове, пазней пераходзілі, "вандравалі"... з адной мовы ў другую" (с.315). І ў беларускай мове рабіліся спробы папаўняць лексіку (асабліва інтэлектуальную) праз калькаванне нямецкіх, чэшскіх, польскіх слоў з мэтай пазбегнуць запазычвання лацінскіх і грэчаскіх. Прадстаўлены матэрыял дае магчымасць глыбей асэнсаваць і аб'ектыўна ацаніць некаторыя тэндэнцыі развіцця лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст.

Фанетыка-граматычныя варыянты тапоніма Брэст на матэрыяле летапісаў аналізуе Валянціна Мароз ("Пра адну ўласную назву"). Праблемы мастацкага перакладу даследуюць С.А.Скамарохава ("Нацыянальна-культурны кампанент мовы і некаторыя праблемы ягонага перакладу") і Наталля Якубук ("Сінанімічны рад у арыгінальным і перакладным тэкстах"). Устанавіць, наколькі тоесныя сінтаксічныя сістэмы беларускай і польскай моў, — мэта даследавання С.А.Важніка "Яшчэ раз аб пераходным характары сінтаксісу беларускай мовы". Асаблівасцям сістэмнай арганізацыі словаўтварэння прысвечаны даклад Л.А.Гайдукі "Месца складанага слова ў словаўтваральным гняздзе". А ў матэрыяле І.У.Будзько "Особенности функционирования языка sacrum на территории Браславщины (Беларусь)" тлумачацца вытокі сакральнага полілінгвізму ўказанай мясцовасці.

Як бачым, матэрыялы названай вышэй міжнароднай канферэнцыі, што праходзіла ў венгерскай сталіцы, сведчаць аб цікавасці навукоўцаў да беларускай тэматыкі.

**Ганна КУЛЕШ,**
**дацэнт кафедры гісторыі**
**беларускаймовы Белдзяржуніверсітэта**

ВАНДРОЎКІ

# На крылах "Белых буслоў"

На шчасце, не перавяліся яшчэ на свеце добрыя, спагадлівыя людзі. Удзельнікам Буда-Кашалёўскага раённага тэатра фальклору "Бераг белых буслоў" яшчэ раз давялося ўпэўніцца ў гэтым падчас іх паездкі ў Германію па запрашэнні тамтэйшага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзя Грушавога.

Гісторыя гэта даўняя. Не менш як 10 гадоў таму пачалося знаёмства, а потым і дружба паміж людзьмі з прысыпанага чарнобыльскім попелам Буда-Кашалёўскага раёна і далёкага, дыхтоўнага нямецкага горада Каменц у Федэратыўнай зямлі Саксонія. Бургамістр гэтага горада, старшыня фонду "Дзецям Чарнобыля" Георг Ціцын арганізаваў на Палессе адзін канвой з гуманітарным грузам, затым другі, трэці... Усяго іх на сённяшні дзень больш за трыццаць. У Каменц ды іншыя гарады на адпачынак і аздараўленне пачалі часцей выязджаць дзеці з чарнобыльскай зоны, у прыватнасці, з Буда-Кашалёўскага раёна. Пасябравалі сем'і, бацькі і сваякі, жыхары Германіі ды Беларусі. А дзе дружба, там і святы...

У Буда-Кашалёве ствараўся тэатр фальклору "Бераг белых буслоў". Задумка яго нарадзілася ў нястомнага фалькларыста, балетмайстра Міколы Котава даўно, але канчаткова выспела пасля яго наведвання ЗША, шматлікіх выступленняў перад амерыканскай публікай, якая з задавальненнем сустракала беларускіх валачобнікаў. Заакіянскія сябры з Беларуска-амерыканскага цэнтра ў горадзе Саўт-Рыверы, якім кіруе Жорж Навумчык, дапамаглі ў набыцці інструментаў. Задумка стварыць тэатр фальклору наблізілася да рэальнасці.

Міколу Котава запрасілі ў Буда-Кашалёў для арганізацыі новага калектыву мастацкай самадзейнасці. Ён узяў на сябе клопаты рэжысёра, ставіў танцы, з якімі пражыў усё жыццё, і новыя, народжаныя ў калектыве. Канцэртмайстрам стаў настаўнік гісторыі мясцовай школы, таксама сталы ўдзельнік мастацкай самадзейнасці Дзмітрый Паўлюкоў. Клопаты пра арганізацыю гурта, пра сцэнічныя касцюмы ды рэпетыцыі ўскладаліся на Тамару Салаву і Людмілу Лукашук. Дапамог і фонд Генадзя Грушавога.

Тэатр хутка набыў вядомасць, самадзейных артыстаў віталі гледачы — жыхары раёна і ўсёй Гомельскай вобласці, Мінска і нават далёкага замежжа, у прыватнасці, Германіі. Удзельнікам гурта хацелася ўвасобіць у праграме вясёлую, самабытную душу беларускага народа, яго жартаўлівасць, песеннасць, здольнасць ні пры якіх умовах "не вешаць носа", а, наадварот, — танцаваць... І гэта ўдалося.

За месяц знаходжання ў Германіі яны далі 24 канцэрты — на столькі, вядома, не разлічвалі, як і на такі шчыры, душэўны прыём. Выступаць даводзілася на розных пляцоўках, пад усялякімі дахамі, а часцей без іх: у шыкоўных канцэртных залах Дрэздэна і на вуліцах гарадоў, у дварах цэркваў і сабораў і ля помніка Кірылу і Мяфодзію. Далі канцэрт у адной гарадской школе з нагоды яе 125-годдзя, у маладзёжным клубе на свяце горада Кёнікбсурга... Немцы аказаліся надзіва і чулымі, і песеннымі, і вясёлымі, а ўсё ад таго, мусіць, што добра, без асаблівых клопатаў, дастойна жывуць. Умеюць жыць, умеюць і адпачываць...

— Хвалююча было, калі немцы па заканчэнні канцэртаў танцавалі, спявалі разам з намі "Бывайце здаровы, жывіце багата", — расказвае Мікола Котаў. — Пасля кожнага канцэрта людзі не разыходзіліся, ішлі да нас на сцэну, ці мы — у залу або на пляц, разам вадзілі любімы немцамі карагод. Усеагульны ўздым, непрытворная радасць — гэта запомнілася назаўсёды. Такой і бывае сапраўдная дружба.

У Германіі, як і паўсюль за мяжой, жыве цяпер нямала выхадцаў з краін былога Савецкага Саюза. Даводзілася чуць і беларускую мову, шчырыя запрашэнні прыязджаць яшчэ. І старыя, што памятаюць мінулую вайну, і памяць гэтая, на шчасце, не стала сцяной паміж нашымі народамі, і маладыя немцы — усе цікавяцца Беларуссю, яе людзьмі, умовамі жыцця ў краіне, якая зрабілася для іх намнога бліжэй пасля чарнобыльскай бяды. Мы не маглі б столькі пабачыць, зрабіць, паказаць у Германіі, калі б не нашы новыя знаёмыя, якія хутка сталі шчырымі сябрамі — Мэта і Вернер Янкі, юныя немкі Крысціна, Элона, Сільвія, Маргіт і іншыя.

На заканчэнне была падрыхтавана вялікая агульная нямецка-сорбская тэатралізаваная кампазіцыя "Вялікодны выезд на конях", дзеля знаёмства з якой я яшчэ ў мінулым годзе прыязджаў у Германію. Ёсць у сорбаў — невялікай нямецкай народнасці, што захавала сваю старадаўнюю мову і культуру, — стары абрад выезду на конях у дзень усеагульнага свята Вялікадня. Надзвычай урачыста, у белых сарочках і чорных смокінгах, у цыліндрах і высокіх бліскучых ботах едуць рэспектабельныя баўэры да царквы верхам на конях, па дарозе да працэсіі далучаюцца іншыя вершнікі. Узначальвае працэсію, традыцыйна, старэйшы сорб Юрый Цыш, разам з ім едуць яго сын, унукі і праўнукі. У гэты час урачыста гучаць званы і арган у храме, хор спявае прысвечаны святу гімн. Пачынаецца ўсеагульная малітва, затым масавыя гульні і танцы, спаборніцтвы...

Калектыў вярнуўся ў Буда-Кашалёў поўны захаплення, уражанняў пра незабыўныя дні, праведзеныя ў Германіі... "Белыя буслы "данеслі на сваіх крылах у Германію радасць сустрэчы і сяброўства, міру і душэўных, спагадлівых адносін паміж людзьмі, якія раздзелены толькі адлегласцю, але сэрцы іх б'юцца ва унісон.

**Васіль ФЕРАНЦ**



*На здымку: Мікола КОТАЎ.*



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## У Доме літаратара

**1 лістапада.** Бібліятэка СБП. 16.00. Прэзентацыя часопіса "Тэрмапілы" (выданне беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы "Белавежа").

**6 лістапада.** Вялікая зала. 17.00. Творчыя ўрокі для школьнікаў. Сустрэча з драматургам Аляксеем Дударавым. Паказ спектакля "Вечар".

**12 лістапада.** Пасяджэнне бюро секцыі публіцыстыкі і нарыса.

**14 лістапада.** Пасяджэнне секцыі перакладаў сумесна з секцыяй крытыкі па пытаннях крытыкі перакладаў.

**21 лістапада.** Вялікая зала. 15.00. Падвядзенне вынікаў конкурсу на лепшую п'есу для дзяцей.

**22 лістапада.** Пасяджэнне ваеннашэфскай камісіі.

**28 лістапада.** Вялікая зала. Вечарына маладых літаратараў "Каліна зімы".

**28 лістапада.** Пасяджэнне прыёмнай камісіі СБП.

**По панядзелках, 18.00.** Пасяджэнне творчага аб'яднання "Літаратар".

Барыс БЕЛЯЖЭНКА

## Афарызмы

Умей не даесці яблык, калі ў ім чэрві.

●

Вучыся ў любога, і вораг — настаўнік.

●

Сляды — на роднай вуліцы, а сам — сярод сузор'яў.

●

Певень славіў лісіцу.

●

Грошы — вада, у якой шмат хто хоча ўтапіцца.

●

Белы конь, ды ў чорным хамуце.

●

Не бездарожжа зло, а безгалоўе.

●

У скнары пухавік марозіць, у шчодрага прасціна грэе.

●

Бачыш дзіва хвіліну, а помніш век.

●

Дзень — поле, ноч — лес.

●

Збан на калку мудры.

●

Не прымай льва за карову, а стрыжа за лебедзя.

## Паважаныя аўтары штотыднёвіка!

Просім тэрмінова паведаміць у наша выданне наступныя звесткі пра сябе: прозвішча, імя, імя па бацьку; дакладны адрас; пашпартныя дадзеныя, месца працы. Гэта паспрыяе нашым і вашым стасункам з падатковай інспекцыяй.

ПАРОДЫІ

Антось ПАДАБАС

## Проста

Лева. Прама.
Права.
А ўжо не канчаюцца
вершы...
**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ**

*Зірну, як воўк, налева,*
*За гладкую шашу,*
*Убачу пень ці дрэва —*
*І вершык напішу.*

*А прама — вельмі проста*
*Глядзець, цвяліць душу.*
*Убачу — спее проса, —*
*Два вершы напішу.*

*Як павярну направа,*
*То ў думках сагр631:*
*Пайшла суседка Клава...*
*Ёй вершык напішу.*

*А потым — зноў налева,*
*Направа, напрасткі...*
*Ізноў сустрэну дрэва —*
*І пацякуць радкі.*

Павел САКОВІЧ

## Другі патоп

Я цыркулем адзначу
На глобусе прастору
І ціхенька заплачу
На рэкі і на горы.
**Зінаіда ДУДЗЮК**

*І на рэкі, і на горы*
*Буду плакаць тыдні два,*
*І на ўсёй зямной прасторы*
*Стане слёзнаю вада.*

*Хай патоне мае гора,*
*Каб я зноўку ажыла.*
*Прагльіне, канешне, мора*
*Тых, хто мне жадае зла.*

*Шмат сканае*
*хто ў пакутах,*
*Ды не я, само сабой:*
*Запрасіў мяне ў каюту*
*Капітан Каўчэгу - Ной!*

Мікола ШАБОВІЧ

## Нацерабіўся

За мной цікавала
заўжды дзяўчынка,
Калі я бярозкам
бакі церабіў.
**Мікола МЯТЛІЦКІ**

*Калісьці я быў*
*сарамлівы хлапчына,*
*Баяўся кранууца*
*дзявочай рукі,*
*У лес шкандыбаў без*
*усякай прычыны,*
*І там церабіў*
*я бярозам бакі.*

*Дзяўчаты ж за мной*
*цікавалі заўсёды.*
*Чаму цікавалі? —*
*не знаю й цяпер.*
*Ад іх я ўцякаў*
*праз кусты і гароды,*
*Бо скажуць у вёсцы:*
*"Глядзі, кавалер!.."*

*А потым ажэніць*
*яшчэ неспадзеўкі —*
*А мне шчэ жаніцца*
*было не з рукі.*
*У Мінск я паехаў.*
*Вось там былі дзеўкі!*
*О, колькіх жа*
*я церабіў за бакі!*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
Газета творчых інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19





ТЭЛЕФОНЫ:

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-7985 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 1.11.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6466

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12